• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • кошт 3000 рублёў

22 верасня 1998 г. аўторак, № 189 (23540)



# ЗВЯЗДА

## У БЕЛАРУСІ ПРАЦЯГВАЕЦЦА РОСТ АБ'ЁМАЎ ПРАМЫСЛОВАЙ ВЫТВОРЧАСЦІ

**У студзені—жніўні 1998 года прамысловасцю Беларусі выраблена прадукцыі (работ, паслуг) на суму 379.222 мільярды рублёў. У супастаўных цэнах, як сведчыць Міністэрства статыстыкі і аналізу, аб'ём прамысловай прадукцыі ў параўнанні з аналагічным леташнім перыядам павялічыўся на 12 працэнтаў.**

Прычым рост назіраўся ва ўсіх галінах прамысловасці, апрача электраэнергетыкі, дзе меў месца спад на 8,1 працэнта.

Найбольш значны прырост аб'ёмаў вытворчасці зафіксаваны ў чорнай металургіі (на 24 працэнты), лясной, дрэваапрацоўчай і цэлюлозна-папяровай прамысловасці (на 21,5 працэнта), а таксама ў лёгкай прамысловасці (на 20,1 працэнта).

Адначасова ў пачатку 1998 года ў параўнанні з ліпенем назіралася змяншэнне аб'ёмаў вытворчасці ў чатырох галінах прамысловасці: у чорнай металургіі (на 6,7 працэнта), у харчовай прамысловасці (на 3,9), у машынабудаванні і металаапрацоўцы (на 2,5) і ў прамысловасці будаўнічых матэрыялаў (на 2,1 працэнта). У цэлым жа ў беларускай прамысловасці аб'ём вытворчасці ўзрос за жнівень на 3,3 працэнта.

**Сяргей СНЕГІН, БелаПАН.**

# БЕЛАРУСКІЯ ХЛЕБАРОБЫ ПРОЦІПАСТАВІЛІ СТЫХІІ МАЙСТЭРСТВА І ВОЛЮ

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў мінулую суботу прыняў удзел у свяце беларускіх хлебаробаў — фестывалі-кірмашы «Дажынкі-98», праведзеным у Нясвіжы. На ўрачыстасцях былі таксама старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Анатоль Малафееў, Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Павел Шыпук, прэм'ер-міністр краіны Сяргей Лінг, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, віцэ-прэм'еры, міністры, іншыя афіцыйныя асобы. Гэта свята, прысвечанае заканчэнню ўборкі, — ужо трэцяе па ліку ў нашай краіне. Цяпер гасцей прымала Мінская вобласць.**



**Аляксандр Лукашэнка ўручыў ключы ад новага дома сям'і лепшага механізатара эксперыментальнай базы «Ганусава» Нясвіжскага раёна Юрыя Раманоўскага.**



**На новенькай «Ладзе» паехалі дамоў пераможцы жніва — сямейны экіпаж з калгаса «Дружба» Стаўбцоўскага раёна Васіль і Валерый Роўбы.**



**На свяце было весела.**



Кіраўнік дзяржавы ў сваім выступленні перад працаўнікамі вёскі і гасцямі свята адзначыў, што яшчэ ў нашых далёкіх продкаў дажынкі былі самым важным святам. Хлеб на стале — значыць дастатак у доме, — лічылася тады.

Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што гэта ўборачная кампанія праходзіла ў вельмі складаных пагодных умовах, якіх, паводле звестак сіноптыкаў, ужо не было паўстагоддзя. Але прыродным катаклізмам беларускія хлебаробы проціпаставілі настойлівасць і працавітасць. Ім на дапамогу прыйшлі жыхары гарадоў, студэнты. Асабліва цёплыя словы прэзідэнт выказаў у адрас сельскіх працаўніц, якія сваёй самаадданай працай вызначыліся на ўборцы ўраджаю.

Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, сёлета сабрана звыш пяці мільёнаў тон збожжа. Сярэдняя ўраджайнасць па рэспубліцы пры гэтым склала больш як 22 цэнтнеры з гектара. Лепшыя намалоты дасягнуты ў Гродзенскай вобласці, дзе на круг сабрана 30,6 цэнтнера з гектара, у Брэсцкай — 23,3 цэнтнера і Мінскай — 22,45 цэнтнера.

Сярод раёнаў рэспублікі ў лідарах ідуць Гродзенскі — больш за 44 цэнтнеры з гектара, Берасавіцкі — 40 цэнтнераў і Нясвіжскі — 35 цэнтнераў з гектара. У 270 калектыўных гаспадарках краіны намалочана па 30—40 цэнтнераў з гектара, у 52 — звыш 40 цэнтнераў. Найлепшы паказчык дасягнуты ў сельскагаспадарчым калектыўным прадпрыемстве «Кастрычнік» Гродзенскага раёна, дзе на кожны круг намалочана больш за 62 цэнтнеры з гектара.

У неймаверна цяжкіх умовах, лічыць Аляксандр Лукашэнка, праходзіла ўборачная кампанія ў Віцебскай вобласці. Гэта адбілася і на агульным выніку — з кожнага гектара атрымана па 18,1 цэнтнера. Але нават і ў гэтым рэгіёне ёсць выдатныя калектывы, якія змаглі дабіцца значных поспехаў. Так, напрыклад, у калгасе «Усход» Дубровенскага раёна сабрана 49 цэнтнераў з гектара.

Вялікі ўклад у дастойнае завяршэнне ўборкі ўнеслі механізатары. Напрыклад, 58 экіпажаў намалацілі звыш адной тысячы тон збожжа. А лепшымі на ўборцы сталі дуэты камбайнераў на чале з Уладзімірам Пячонкам з калгаса «Мірскі» Карэліцкага раёна і Вячаслава Тырко, работніка райсельгасхіміі Брэсцкага раёна.

Цяпер, падкрэсліў прэзідэнт, перад аграрным сектарам краіны стаіць задача выйсці на ўзровень 1990 года. «Беларусь ідзе правільным шляхам развіцця сваёй народнай гаспадаркі, — адзначыў ён. — І нягледзячы на тое, што ў гэтым годзе ў параўнанні з папярэднім сабраны меншы ўраджай збожжавых, наша рэспубліка гатова прыйсці на дапамогу расіянам».

Аляксандр Лукашэнка ў гэты ж дзень пабываў у эксперыментальнай гаспадарцы «Ганусава», дзе ўручыў ключы ад новага дома лепшаму механізатару гаспадаркі Юрыю Раманоўскаму. Акрамя таго, шэраг перадавікоў, якія вызначыліся на ўборцы ўраджаю ў гэтым годзе, быў узнагароджаны каштоўнымі падарункамі — легкавымі аўтамабілямі, матацыкламі, халадзільнікамі і тэлевізарамі.

Адказваючы на пытанні журналістаў, Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што ў гэтым годзе рэспубліка не дабрала ў параўнанні з мінулым больш як 12 працэнтаў ураджаю. Аднак, лічыць прэзідэнт, хваляваццa не варта. У дзяржаўныя засекі паступіла дастатковая колькасць збожжа. Да таго ж будуць праведзены закупкі ў Стаўрапольскім і Краснадарскім краях, дасягнута дамоўленасць аб набыцці фуражнага збожжа ва Украіне.

Закранаючы праграму будаўніцтва жылля на вёсцы, кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што ва ўсіх 2,5 тысячы калектыўных гаспадарках краіны стаіць задача пабудаваць па пяць дамоў павышанай якасці. Каштуюць яны нятанна — амаль 15 тысяч долараў. Аднак, на гэта ісці неабходна для таго, каб у вёску з гарадоў вярнуліся людзі. Калі раней на будаўніцтва жылля ў вёсцы з агульнага аб'ёму фінансавання выдзялялася толькі 6 працэнтаў, то цяпер будзе накіравана 30.

Свята ўдалося на славу. На вуліцах Нясвіжа, куды з'ехаліся лепшыя прафесійныя артысты і самадзейныя майстры, гучала музыка, людзі спявалі і танцавалі, весяліліся...

Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, эстафета «Дажынак» перадаецца Магілёўшчыне.

**Ігар ХОМІЧ, БЕЛТА.**

**Фота Васіля ЗЯНЬКО і БЕЛТА.**

## УЛАДЗІМІР ГАРКУН ПАДАЎ У АДСТАЎКУ

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, знаходзячыся 19 верасня ў Нясвіжы, заявіў, што віцэ-прэм'ер краіны Уладзімір Гаркун, які курыруе аграрны сектар, падаў у адстаўку. Паводле слоў кіраўніка беларускай дзяржавы, прычына адстаўкі — пагаршэнне стану здароўя віцэ-прэм'ера.

Каменціруючы гэты факт, Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што цяпер падбіраецца кандыдатура на гэта вакантнае месца ў беларускім урадзе. Як сказаў прэзідэнт, неабходна знайсці «сістэмнага» чалавека, які змог бы ў комплексе ацаніць задачы, што стаяць перад аграрным сектарам рэспублікі.

**БЕЛТА.**

*Надзвычайнае здарэнне*

## ВЫЦЕКЛА 40 ТОН СЕРНАЙ КІСЛАТЫ

**У ноч з нядзелі на панядзелак на чыгуначнай станцыі «Магілёў-2-Сартавальная» адбылася аварыя: пры счэпліванні была прабіта цыстэрна, дзе знаходзілася 71 тона сернай кіслаты.**

Праз дзірку памерам 20 квадратных сантыметраў выцекла прыкладна 40 тон небяспечнай вадкасці, якая разлілася на плошчы 0,4 гектара. Здарэнне адбылося прыкладна ў дзве гадзіны ночы, а заўважылі яго наступствы яшчэ праз гадзіну.

На ліквідацыі аварыі працавалі чыгуначнікі, аварыйна-выратавальны атрад пажарнай службы Магілёўскай вобласці, штаб грамадзянскай абароны. Аснoўную цяжкасць уяўляла сабой прабоіна, якую выпальвала серная кіслата. У выніку край цыстэрны быў падчэплены кранам. І калі вадкасць сцякла ў іншы, нешчыльна закрыты бок ад дзіркі, удалося ліквідаваць цечу. Разлітую серную кіслату гасілі вапнай. Каля васьмі раніцы аварыя была канчаткова ліквідавана. Цяпер спецыялісты расследуюць прычыны і, магчыма, знойдуць вінoўніка здарэння на чыгуначнай станцыі «Магілёў-2».

**Ілона ІВАНОВА.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 21 ВЕРАСНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| «Славнефтебанк» | 66900 | 67000 | 39530 | 39590 | 3700 | 4550 | 222-0750 |
| Пріорбанк | 65500 | 67000 | 38700 | 39500 | 2500 | 4500 | 245-5721 |
| Белпрамбудбанк | 66000 | 67000 | 38000 | 39500 | 3800 | 4550 | 233-2110 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 52300 | | 31062.54 | | 3200 | | Курс на 22.09.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 16.3818 | | 9.7435 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных управленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

***Першы выпуск штогадовага даведачнага альманаха «Курсы Нацбанка РБ і Цэнтрабанка РФ» за перыяд з 1990 па 1997 гады можна набыць, пазваніўшы па тэл. (017) 228-59-80.***

**Акционерное общество «МЗОО» выплачивает дивиденды по акциям ОАО «МЗОО» по итогам работы за I полугодие 1998 года.**

***Дивиденды выплачиваются с 30.09.1998 г. по адресу: г. Минск, ул. Тимирязева, 29, РКЦ «МЗОО».***

**Правление ОАО «МЗОО»**

## МАЗ ТРАПІЎ У СОТНЮ ЛЕПШЫХ

**Міжнародная кампанія «Дэлойт і Туш» апублікавала чарговы штогадовы рэйтынг «Топ 100 — сто лепшых кампаній у Цэнтральнай Еўропе». Аналіз дзейнасці кампаній робіцца кваліфікаванымі спецыялістамі ў 17 краінах Цэнтральнай Еўропы і міжнароднымі экспертамі, якія спецыялізуюцца на аказанні паслуг ва ўсіх галінах эканомікі. Асновай для вызначэння месца ў рэйтынгу служыць атрыманы кампаніямі прыбытак.**

З гэтага года гэты рэйтынг пачаў ахопліваць і Беларусь, па-за яго рамкамі застаюцца Расія і Украіна. У рэйтынгу «Топ 100 — сто лепшых кампаній у Цэнтральнай Еўропе» за 1997 год лідзіруюць польскія фірмы — у сотню лепшых увайшлі ажно 37 прадпрыемстваў Польшчы, 16 — Чэхіі, 13 — Венгрыі, 6— Румыніі. Першае месца заняла польская дзяржаўная кампанія «Польскія электраэнергетычныя сеткі», даходы якой летась перавысілі тры з паловай мільярды долараў. Пад нумарам 72 у рэйтынг трапіў адзіны наш прадстаўнік — Мінскі аўтамабільны завод з больш чым паўмільярдным прыбыткам.

Аналіз эканамічнага стану краін Цэнтральнай Еўропы кампаніяй «Дэлойт і Туш» адкрыў некаторыя агульныя тэндэнцыі. У цэлым на 18 працэнтаў за год на буйнейшых прадпрыемствах рэгіёна знізілася колькасць працоўных месцаў, на 56,7 працэнта вырасла колькасць прыватызаваных прадпрыемстваў, 25 буйных кампаній прыватызавана з удзелам замежнага капіталу. Сярэдні прыбытак кампаній узрос за год на 7,5 працэнта, што гаворыць аб агульным эканамічным пад'ёме ў рэгіёне Цэнтральнай Еўропы.

Валер КАЛІНОЎСКІ.

### ПРЭЗІДЭНТ ПРЫНЯЎ КІРАЎНІКА КАНЦЭРНА «БЕЛЛЕГПРАМ»

**21 верасня 1998 года Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка прыняў са справаздачай прэзідэнта канцэрна «Беллегпрам» А. У. Кабякова.**

А. У. Кабякоў далажыў аб выніках работы галіны за восем месяцаў і аб выкананні даручэння кіраўніка дзяржавы па выпуску дзіцячага асартыменту і спецадзення.

Як паведамілі БЕЛТА з прэс-службы прэзідэнта, А. Лукашэнка, ацэньваючы дзейнасць канцэрна за мінулы перыяд года, падкрэсліў неабходнасць замацавання дасягнутых станоўчых тэндэнцый. Ён падтрымаў ідэю стварэння галіновай аўдытарскай службы з правамі ведамства кантролю.

БЕЛТА.

*З першых вуснаў*

### ТОЛЬКІ РАСІЯНЕ ПАВІННЫ ВЫРАШЫЦЬ ЛЁС СВАЙГО ПРЭЗІДЭНТА

На пытанне журналістаў аб магчымасці адстаўкі прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына кіраўнік беларускай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка, знаходзячыся на Міншчыне 19 верасня, адказаў, што «гэта пытанне вырашаць самому Ельцыну, усім расіянам». Прычым Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што «яму гэта неабыякава як кіраўніку Саюза Беларусі і Расіі».

БЕЛТА.

### Інтрыга з вызначэннем чэмпіёна захоўваецца

У нядзелю, за 5 тураў да заканчэння VIII чэмпіянату Беларусі па футболу, урэшце мог вызначыцца новы чэмпіён рэспублікі ў асобе магілёўскага «Днепр-Трансмаша», якому трэба было выйграць дамашнюю сустрэчу ў мазырскай «Славіі». І тады незалежна ад зыходу сустрэчы «БАТЭ»—«Тарпеда-Кадзіна» магілёўчане прымалі б віншаванні. Аднак заўчаснае чэмпіёнства ў чарговы раз прыйшлося адкласці. Мазыране аказаліся не з пужлівых і змаглі звесці з лідэрам матч унічыю — 1:1, а барысаўчане хоць з мінімальным лікам, але адолелі гасцей.

Вынікі астатніх сустрэч: «Нафтан-Дэвон»—«Белшына» — 1:4, «Камунальнік»—«Дынама» (Мн) — 1:0, «Маладзечна»—«Нёман» — 1:2, «Лакаматыў-96»—«Гомель» — 2:1, «Дынама» (Бр)—«Тарпеда» — 4:0.

Уладзімір ЗДАНОВІЧ.

### У ГОМЕЛЬСКАЙ ВОБЛАСЦІ АБЯСШКОДЖАНА ЗЛАЧЫННАЯ ГРУПОЎКА

**Супрацоўнікамі ўпраўлення па Гомельскай вобласці па арганізаванай злачыннасці і карупцыі пры МУС і АМОНа абясшкоджана арганізаваная злачынная група, якая займалася рабаваннем аўтамабіляў.**

Затрымана пяць чалавек, прычым адзін з іх — грамадзянін Расіі, якія кантралявалі мясцовы ўчастак аўтамабільнай трасы Санкт-Пецярбург—Краснадар. Рабаўнікі папаліся з доказамі злачынства: на момант «апрацоўкі» расійскага «КАМАЗа», у вадзіцеля якога яны пад пагрозай фізічнай расправы выкралі 4 млн. 500 расійскіх рублёў і 5 млн. рублёў беларускіх.

Ірына МАКАВЕЦКАЯ, БелаПАН.

## НА ПАСЯДЖЭННІ ВА ЎРАДЗЕ З УДЗЕЛАМ ПРЭЗІДЭНТА БУДУЦЬ РАЗГЛЕДЖАНЫ ПЫТАННІ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАГА РАЗВІЦЦЯ КРАІНЫ

**Актуальныя пытанні сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі ў 1998 годзе будуць разгледжаны на пашыраным пасяджэнні Савета Міністраў 22 верасня. У ім прыме ўдзел кіраўнік нашай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка.**

Як паведаміў карэспандэнту БЕЛТА прэс-сакратар прэм'ер-міністра Дзмітрый Маліноўскі, на пасяджэнні будзе прааналізавана шырокае кола праблем. Перш за ўсё яго ўдзельнікі абмяркуюць вынікі выканання праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця за студзень—жнівень і ход рэалізацыі прапаноў рэспубліканскай камісіі, створанай па рашэнню прэзідэнта рэспублікі вясной гэтага года. З асноўным дакладам выступіць прэм'ер-міністр Сяргей Лінг. Запланаваны таксама выступленні міністра эканомікі Уладзіміра Шымава, міністра фінансаў Мікалая Корбута, старшыні праўлення Нацыянальнага банка Пятра Пракаповіча, міністра прамысловасці Анатоля Харлапа, міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Івана Шаколы, міністра знешніх эканамічных сувязяў Міхаіла Марыніча, старшыні Мінгарвыканкама Уладзіміра Ярмошына, старшынь аблвыканкамаў, кіраўнікоў шэрагу дзяржкамітэтаў, вядучых канцэрнаў і прадпрыемстваў.

Прадугледжваецца, што выступіць таксама прэзідэнт краіны. Аляксандр Лукашэнка дасць ацэнкі становішчу спраў у народнай гаспадарцы, вызначыць асноўныя перспектывы сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на наступны год.

БЕЛТА.

### УНІКАЛЬНАМУ ЧАЛАВЕКУ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ

**Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з 75-гадовым юбілеем ганаровага прэзідэнта-саветніка Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, акадэміка Мікалая Барысевіча.**

«Вы адносіцеся да унікальных людзей зямлі беларускай, — гаворыцца ў пасланні кіраўніка дзяржавы. — Сялянскі сын, абаронца Радзімы, выдатны вучоны і арганізатар навукі. Прырода надзяліла Вас моцным характарам, непахіснай воляй, настойлівасцю і мужнасцю. Многае з таго, на чым сёння стаіць беларуская навука і яе авангард — Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, пабудавана Вашымі рукамі. І трэба прама сказаць, што пабудавана грунтоўна, на стагоддзі».

Прэзідэнт падкрэсліў, што заслугі Мікалая Аляксандравіча Барысевіча перад Радзімай неацэнныя. Яго вялікі жыццёвы вопыт і высокі навуковы аўтарытэт у свеце і сёння працуюць на стварэнне новай Беларусі.

«Я ведаю Вас як чалавека гонару і абавязку. Вы вытрымалі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, не змянілі свае перакананні, калі распаўся Савецкі Саюз, заўсёды мелі і не баяліся адстойваць уласную думку ў цяжкі для рэспублікі час. Калі ёсць такія людзі на Беларусі, будзе жыць наша краіна ў міры і згодзе, разам пераадолеем усе цяжкасці», — гаворыцца ў пасланні прэзідэнта.

Аляксандр Лукашэнка пажадаў Мікалаю Аляксандравічу Барысевічу моцнага здароўя, новых творчых поспехаў, шчасця і дабрабыту.

БЕЛТА.

### НЕЎСТАНОЎЛЕНАЕ ВЫБУХОВАЕ ПРЫСТАСАВАННЕ СПРАЦАВАЛА Ў МАР'ІНАЙ ГОРЦЫ

**У суботу ноччу на вуліцы Пралетарскай пачуўся моцны выбух. Пакуль невядома, што там такое рванула: зараз на месцы здарэння працуюць эксперты з экспертна-крыміналістычнага цэнтра рэспублікі.**

Як удакладнілі газеце ў Міністэрстве ўнутраных спраў, выбух прагучаў каля гадзіны ночы ў двары дзіцячай музычнай школы. Аб яго сіле можна меркаваць хаця б па тым, што ў будынку школы пашкоджаны шыбы на вокнах, як, дарэчы, і на вокнах навакольных дамоў. На шчасце, час быў позні, таму з людзей ніхто не пацярпеў.

Ігар ГРЫШЫН.

### ПРЭЗІДЭНТ ПРЫНЯЎ КІРАЎНІКА НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка 21 верасня 1998 года прыняў са справаздачай старшыню праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь П. П. Пракаповіча.**

Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, П. П. Пракаповіч далажыў аб рабоце Нацыянальнага банка, накіраванай на мінімізацыю вынікаў крызісных з'яў у фінансавай сферы Расіі для беларускай эканомікі. Абмяркоўваўся таксама ход выканання Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1998 год. Указаўшы на неабходнасць прыняцця далейшых мераў па ліквідацыі вынікаў расійскага крызісу для Беларусі і безумоўнага выканання важнейшых параметраў сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, прэзідэнт зрабіў адпаведныя даручэнні.

П. П. Пракаповіч, які з'яўляецца куратарам Брэсцкай вобласці, далажыў таксама аб сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў рэгіёне, аб ходзе асенніх сельскагаспадарчых работ і рэалізацыі праграмы асваення магутнасцяў буйных жывёлагадоўчых комплексаў, гаворыцца ў паведамленні прэс-службы.

БЕЛТА.

### ТЭЛЕФОННАЯ РАЗМОВА ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ З ПРЭЗІДЭНТАМ УКРАІНЫ

**21 верасня 1998 года адбылася тэлефонная размова Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі з Прэзідэнтам Украіны Л. Д. Кучмам па ініцыятыве ўкраінскага лідэра.**

Кіраўнікі дзяржаў абмяняліся думкамі па шырокаму спектру пытанняў, якія маюць узаемную цікавасць. Была дасягнута дамоўленасць аб тым, што ў бліжэйшы час павінна адбыцца сустрэча прэм'ер-міністраў абедзвюх краін для абмеркавання канкрэтных аспектаў двухбаковага супрацоўніцтва.

Прэзідэнты таксама дагаварыліся аб правядзенні ў кастрычніку г. г. у Рэспубліцы Беларусь беларуска-ўкраінскага саміта на ўзроўні кіраўнікоў дзяржаў. Адной з тэм тэлефоннай размовы быў расійскі фінансавы крызіс і яго вынікі для эканомік Беларусі і Украіны, а таксама характар мераў па абароне ўнутраных рынкаў, забеспячэнне сацыяльных інтарэсаў сваіх грамадзян, што прымаюцца кіраўніцтвам абедзвюх краін. На заканчэнне Л. Д. Кучма праінфармаваў беларускага прэзідэнта аб сваёй нефармальнай сустрэчы з прэзідэнтам Расіі Б. М. Ельцыным і выніках праведзеных перагавораў.

БЕЛТА.

### У КАСТРЫЧНІКУ ПЕНСІІ БУДУЦЬ ВЫПЛАЧВАЦЦА СВОЕЧАСОВА

Фінансавы крызіс, што адбываецца ў Расіі не паўплывае на своечасовасць выплаты пенсій беларускім пенсіянерам. Ужо зараз, як паведаміла карэспандэнту «Звязды» кіраўнік Фонду сацыяльнай абароны Людміла Бачыла, фінансаванне кастрычніка забяспечана прыкладна на 80 працэнтаў. Для гэтых патрэб назапашана каля 4,5 трыльёна рублёў. Пакуль яшчэ дакладна невядома, у якіх памерах будуць выплачваццa пенсіі ў кастрычніку (магчыма, што адбудзецца іх аператыўны пераразлік) — гэта пытанне вырашыцца ў хуткім часе.

Мікалай ЛІТВІНАЎ.

### У БЕЛАРУСЬ ПРЫЯЗДЖАЕ МАСКОЎСКІ ПАТРЫЯРХ АЛЕКСІЙ II

**Па запрашэнню прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі Беларусь наведае Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II. Як стала вядома БЕЛТА, візіт Прадстаяцеля Рускай праваслаўнай царквы адбудзецца з 24 па 27 верасня. Гэта ўжо трэці пастырскі прыезд Яго Свяцейшаства ў нашу рэспубліку.**

У першы дзень свайго знаходжання Свяцейшы Патрыярх сустрэнецца з прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам. Затым ён прыме ўдзел у царкоўных урачыстасцях, прысвечаных святкаванню Узвіжання Крыжа Гасподняга, якія будуць у Полацку, у Спаса-Ефрасіннеўскім жаночым манастыры. Пасля богаслужэння Алексій II адправіць чын узвіжання аднаўленага крыжа Прападобнай ігумені Полацкай, заступніцы Беларусі.

Гэта святыня праваслаўнай царквы была створана па заказу Ефрасінні майстрам Лазарам Богшам з выкарыстаннем старажытнавізантыйскай перагародкавай эмалі. Але ў пачатку Вялікай Айчыннай вайны крыж бясследна знік, і таму Беларуская праваслаўная царква прыняла рашэнне аб аднаўленні святыні. У мінулым годзе крыж прападобнай ігумені быў асвячоны мітрапалітам Мінскім і Слуцкім Філарэтам, Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі і ўрачыста ўнесены ў Полацкі Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр.

За час знаходжання ў нашай краіне Яго Свяцейшаства наведае Мінскую, Віцебскую, Полацкую епархіі і шэраг прыходаў Беларускай праваслаўнай царквы.

БЕЛТА.

### «ЗАЛАТАЯ» ЭСТАФЕТА БЕЛАРУСАК

На мажорнай ноце закончылі сваё выступленне беларускія біятланісткі на летнім чэмпіянаце свету, які падчас мінулых выхадных завяршыўся ў славацкім гарадку Осрблі. У эстафеце 4х4 км (крос з вінтоўкай) квартэт нашых дзяўчат у саставе Святланы Парамыгінай, Ірыны Тананайкі, Наталлі Маршчакінай і Наталлі Рыжанковай заваявай залатыя медалі! Віншуем!

Без узнагарод у эстафетнай гонцы засталася мужчынская зборная Беларусі. У яе — 4-е месца. Чацвёрка «няўдачнікаў» выглядала так: Айдараў, Рыжанкоў, Івашка, Сашурын. Прычым Вадзім Сашурын, пpынявшы ад Пятра Івашкі гонку ажно ў другім дзесятку, ледзь не зваліўся за п'едэстал...

Уладзімір ЗДАНОВІЧ.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 442

### АБ РЭАРГАНІЗАЦЫІ МІНІСТЭРСТВА ПА НАДЗВЫЧАЙНЫХ СІТУАЦЫЯХ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

У мэтах павышэння эфектыўнасці папярэджвання ў Рэспубліцы Беларусь надзвычайных сітуацый прыроднага і тэхнагеннага характару і ліквідацыі іх вынікаў пастанаўляю:

1. Выдзеліць з саставу Міністэрства ўнутраных спраў ваенізаваную пажарную службу.

2. Далучыць да Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Галоўнае ўпраўленне ваенізаванай пажарнай службы і падпарадкаваць названаму Міністэрству абласныя і Мінскае гарадское ўпраўленні ваенізаванай пажарнай службы, атрады, часці і пасты ваенізаванай пажарнай службы, пажарныя аварыйна-выратавальныя атрады і часці, навучальныя і навуковыя ўстановы ваенізаванай пажарнай службы, падраздзяленні забеспячэння, спецыяльныя падраздзяленні.

3. Утварыць Камітэт па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС пры Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях, усклаўшы на яго задачы па рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў галіне абароны насельніцтва ад наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

4. Захаваць за работнікамі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, якім прысвойваюцца спецыяльныя званні, умовы і парадак праходжання службы, матэрыяльнае, пенсійнае, сацыяльнае і іншае забеспячэнне, устаноўленыя для работнікаў ваенізаванай пажарнай службы Міністэрства ўнутраных спраў.

Ускласці на лячэбна-прафілактычныя ўстановы і ваенна-ўрачэбныя камісіі Міністэрства ўнутраных спраў медыцынскае і санаторна-курортнае забеспячэнне работнікаў Міністэрства па надзвычайных сітуацыях.

5. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у трохмесячны тэрмін:

прыняць меры, накіраваныя на рэалізацыю гэтага Указа і прывядзенне ў адпаведнасць з ім дзеючага заканадаўства;

прадставіць на зацвярджэнне Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Палажэнне аб Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях і Палажэнне аб праходжанні службы ў Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях работнікамі, якім прысвойваюцца спецыяльныя званні;

зацвердзіць Палажэнне аб Камітэце па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС пры Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях;

забяспечыць у 1998 годзе фінансаванне Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, Камітэта па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС пры Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях і Камітэта па нагляду за бяспечным вядзеннем работ у прамысловасці і атамнай энергетыцы пры Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях у межах сродкаў, прадугледжаных у рэспубліканскім бюджэце на ўтрыманне Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і Галоўнага ўпраўлення ваенізаванай пажарнай службы Міністэрства ўнутраных спраў.

6. Дапоўніць раздзел «Камітэты пры міністэрствах (дзяржаўныя камітэты) Рэспублікі Беларусь» сістэмы рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, падпарадкаваных Ураду Рэспублікі Беларусь, зацверджанай Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 11 студзеня 1997 г. № 30 «Аб сістэме рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, падпарадкаваных Ураду Рэспублікі Беларусь» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 1, арт. 28; № 4, арт. 152), пасля абзаца адзінаццатага абзацам наступнага зместу:

«Камітэт па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС пры Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях».

7. У падпункце 1.12 пункта 1 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 10 красавіка 1997 г. № 241 «Аб колькасці намеснікаў міністраў і старшынь дзяржаўных камітэтаў Рэспублікі Беларусь» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 11, арт. 387) словы «тры» замяніць словам «чатыры».

8. Гэты Указ увесці ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*11 верасня 1998 г., г. Мінск.*

### СЁННЯ

**З 7.45 — 3-ія месяцавыя суткі. Месяц — у сузор'і Шаляў.**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, пераважна без ападкаў. Вецер паўночна-заходні, умераны. Тэмпература паветра ў Мінску, Віцебску, Магілёве і Гомелі — 16—18, Брэсце — 17—19, Гродне — 18—20 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак пераважна без ападкаў, толькі 23-га ўначы на паўночным усходзе пройдуць кароткачасовыя дажджы; раніцай і ўначы ў асобных раёнах туман, вецер паўночны, 4—9 м/сек., удзень парывы 12—14 м/сек. Тэмпература ўначы 3—8, 24-га месцамі замаразкі да 0-мінус 2, удзень — 13—18 градусаў цяпла.

**Калектыў рэдакцыі газеты «Звязда» смуткуе з выпадку смерці былога нашага супрацоўніка Віктара Мікалаевіча ШЫМУКА і выказвае глыбокае спачуванне сям'і, родным і блізкім нябожчыка.**



# «ЗВЯЗДОЎСКІ» ХРЭСНІК ПРАЙШОЎ ХРЫШЧЭННЕ Ў ЦАРКВЕ

ЯК, НАПЭЎНА, ПАМЯТАЮЦЬ нашы даўнія чытачы, у красавіку гэтага года ў «Звязды» з'явіўся самы сапраўдны хрэснік. Адбылося гэта дакладна за тысячу дзён да пачатку трэцяга тысячагоддзя, якое, нагадаем, надыдзе 1 студзеня 2001 года. Чаму газета адважылася на такі крок і які сэнс мы ўклалі ў гэтую акцыю?

Не сакрэт, што нараджальнасць у краіне катастрафічна зніжаецца, многія нават маладыя сем'і не адважваюцца абзаводзіцца нашчадкамі. Між тым мы стаім на парозе новага часу, і наш далейшы дабрабыт, увогуле моц дзяржавы найперш будуць залежаць ад тых, хто з'яўляецца на свет менавіта зараз. Залежаць ад тых, хто сёння або заўтра рыхтуецца стаць маці і бацькам. Яны — як сувязь паміж сучасным і будучым. Дарослыя людзі і немаўлятка, якія аб'ядноўваюць другое і трэцяе тысячагоддзі, як пупавіна іх саміх... Зразумела, мы не чакалі, што адразу пасля гэтага ўсе «кінуцца» абзаводзіцца дзецьмі. На жаль, такі ўчынак сёння ўжо смела можна аднесці да разраду геraічных. Таму, мабыць, любая сям'я, дзе з'яўляецца немаўлятка, заслугоўвае слоў удзячнасці і падтрымкі.

Вядома таксама, якое значэнне надавалі нашы продкі хрышчэнню нованароджанага і выбару хросных бацькоў. Лічылася, што гэтыя людзі разам з роднымі бацькамі будуць надзейнай апорай у далейшым жыцці хлопчыка ці дзяўчынкі. Мы шчыра спадзяёмся, што «Звязда» — не горшая з «кумоў». Тым больш што ўся наша праца скіравана на дасягненне кампрамісу ў грамадстве, выхаванні ў чытача пачуцця гонару за сваю краіну, памкненняў працаваць на яе і сваю карысць. За тую Беларусь, у якой будзе жыць, упэўнены, шчасліва, «звяздоўскі» хрэснік — Аляксей Лікій і тысячы яго равеснікаў...

...Хрышчэнне адбылося ў мінулую суботу ў мінскай царкве Св. Марыі Магдаліны. Па праўдзе, здымаць падчас правядзення абраду забаронена, але настаяцель храма, даведаўшыся ў чым справа, даў свой дазвол. Перад бацюшкам застаюцца толькі засяроджаныя хросныя бацькі з дзецьмі на руках і, у парадку выключэння, журналісты «Звязды». Усіх астатніх, у тым ліку родных бацькоў і бабуль, сваякоў, папрасілі выйсці. Відаць, узбуджаны такой колькасцю незнаёмых людзей, наш Аляксей амаль гадзіну, што доўжылася Хрышчэнне, не змаўкаў на руках у хросных бацькоў Віталя і Наталлі. Сцішыўся толькі на вуліцы і, стомлены, пачаў пацíху пасопваць, калі фотакар рабіў здымкі на памяць.

А потым дома, як водзіцца, нас чакаў стол. Былі тосты і за Аляксея, і за яго бацькоў Юлю і Сяргея, і за бабуль, і за хросных бацькоў. Вядома, да ліку апошніх у сям'і Лікіяў далучаць і «Звязду». Прыемна, што газету нашу тут любяць і паважаюць, што пачытаць у ёй ёсць што для кожнага. «Нават старэйшая ўнучка Насця спрабуе размаўляць пабеларуску», — паведаміла бабуля. «А мне дык крыжаванкі вашы найбольш падабаюцца, — гаворыць мама Юля, — бывае, да ночы разгадваю, калі складаная трапіцца». У галавы сям'і Сяргея шмат часу адымае служба, таму «Звязду» яму, па яго просьбе, чытае жонка.

Увогуле выкажу ўласныя ўражанні ад сям'і Лікіяў, як кажуць, не па службоваму абавязку. На жаль, не часта здараецца, каб староннi чалавек, трапіўшы ў госці, адчуваў сябе там так добра і ўтульна. Відаць, таму, што гаспадар дома прытрымліваецца ў жыцці адной простай ісціны: «Трэба сябраваць проста так, дзеля сяброўства».

Ну а якія падарункі «Звязда» прыгатавала для свайго хрэсніка? Майку са «звяздоўскай» сімволікай, якую падбіралі на бацьку, маўляў, няхай паносіць, пакуль сын не вырасце такім жа дужым і прыгожым, Юля адразу схавала. «Бацька абыдзецца. Сын вырасце, яму і аддам». А вось вялікі парасон прыняла з задавальненнем. «Буду хавацца пад яго з сынам у час прагулак». Няхай, Аляксей, «звяздоўскі» парасон у бацькоўскіх руках хавае цябе ад непагадзі і ад іншых жыццёвых нягод.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**
**Фота Максіма МАЛІНОЎСКАГА.**

НА ЗДЫМКАХ: абрад хрышчэння; на руках у хросных бацькоў Віталя і Наталлі.

# АСІЛАК ШТУРМУЕ РЭКОРДЫ

**Уладальнік тытула «Містэр Асілак-97», аўтар сусветных рэкордаў па падыманню цяжкасцяў, бабруйчанін Уладзімір Савельеў зноў здзівіў усіх сваімі фенаменальнымі здольнасцямі: выступаючы ў родным горадзе, ён ажно на працягу 36 гадзін штурхаў правай і левай рукой пудовую гіру. Судовая калегія, якую ўзначальвае міжнародны арбітр Алег Баржан (Мінск), налічыла за гэты час 23.501 пад'ём, што ў суме склала 376 тон 16 кілаграмаў. Такога ў свеце не ўдавалася зрабіць яшчэ нікому!**




У сярэднім за гадзіну Уладзімір выдаваў «на-гара» 652 пад'ёмы. Пры гэтым амаль трэць усяго часу Савельеў працаваў ноччу, калі арганізм асабліва мае патрэбу ў адпачынку.

Цікавы рэжым харчавання ў асілка: у час гэтага незвычайнага марафону ім было выпіта каля 10 літраў мінеральнай вады і сокаў, з'едзена каля 5 кг бананаў. Але ўсё ж за гэты час ён не шмат страціў у вазе.

У бліжэйшых планах рэкардсмена — выступленне ў папулярным тэлеклубе «Асілак», дзе 10 мацнейшых гіравікоў рэспублікі, сярод якіх будуць славутыя Вячаслаў Харанека і Сяргей Трыфанаў, падымаючы адначасова на працягу адной хвіліны розную вагу над галавой, паспрабуюць узняць разам не менш як 10 тон.

10 гадоў таму адзін ірландскі матрос за 6 гадзін падняў бочку вагой 62,5 кг 656 разоў і трапіў у сусветна вядомую «Кнігу рэкордаў Гінеса». Вось гэта дасягненне не дае спакою Уладзіміру Савельеву. У бліжэйшы час ён пастараецца пабіць гэты рэкорд. Прынамсі, каля двух месяцаў асілак штодзённа настойліва цягае бочку з вадой, узятую напракат у аб'яднанні «Крыніца».

На працягу ўсяго марафону з Уладзімірам на адлегласці «працаваў» прэзідэнт Беларускай асацыяцыі экстрасенсаў Васіль Іванавіч Конанцаў. Першаму па тэлефоне пасля выступлення Савельеў пазваніў менавіта яму: з Бабруйска ў Мінск.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА.**

НА ЗДЫМКУ: быццам гуляючы, выкідвае над галавой двухпудовік Уладзімір Савельеў.

ПОГЛЯД

# *Андрэй ТУР:* «ПА МЕРЫ РАЗВІЦЦЯ ЭКАНОМІКІ ЎЗРОВЕНЬ ЯЕ ДЗЯРЖАЎНАГА РЭГУЛЯВАННЯ БУДЗЕ ПАВЫШАЦЦА»

## *З намеснікам міністра эканомікі Беларусі Андрэем Турам гутарыць карэспандэнт Інтэрфакса*

**— Андрэй Мікалаевіч! Якія ўрокі ў плане развіцця эканомікі краіны павінна, на ваш погляд, атрымаць Беларусь з крызісу ў Расіі?**

— Улічваючы той факт, што эканоміка рэспублікі мае надзвычай адкрыты характар, нам неабходна вельмі акуратна адсочваць і аналізаваць рэальныя працэсы, якія адбываюцца не толькі ў расійскай, але і ў сусветнай эканоміцы ў цэлым. Дакладны прагноз магчымых варыянтаў развіцця дазваляе прыняць прэвентыўныя меры, якія павінны значна змякчыць наступствы крызісных з'яў для нацыянальнай эканомікі. Дарэчы, спецыялісты прадказвалі, што крызіс у Расіі непазбежны з-за шэрагу аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын, таму наша дзяржава праводзіла палітыку, накіраваную на тое, каб максімальна забяспечыць нацыянальную эканамічную бяспеку.

У гэтым кантэксце вельмі важнае значэнне мае, і крызіс у Расіі гэта наглядна прадэманстраваў, харчовы рынак. Урок, які мы абавязаны атрымаць, заключаецца ў тым, што ні ў якім разе нельга губляць уласную вытворчасць харчавання. Расія, якая на 70 працэнтаў залежыць ад імпарту харчавання, адчула каласальны шок, калі ў адзін момант былі змецены харчовыя тавары з прылаўкаў магазінаў, а пастаўкі з-за мяжы фактычна прыпыніліся. У нас жа пры ўсіх складанасцях развіцця эканомікі пэўныя цяжкасці ўзніклі толькі з тымі відамі прадуктаў, якія мы вымушаны імпартаваць — гэта асобныя віды круп, цукар, алей. Іншымі словамі, крызіс у Расіі яшчэ раз даказаў правільнасць курсу нашай дзяржавы, накіраванага на падтрымку айчыннай сельскагаспадарчай вытворчасці, бо харчовы рынак у стратэгічным плане з'яўляецца рынкам нумар адзін.

Другі ўрок, які мы таксама павінны добра засвоіць, звязаны з праблемай фарміравання дзяржрэзерваў. Для Беларусі гэта ў першую чаргу датычыцца крытычнага імпарту, асабліва паліўна-энергетычных рэсурсаў. Праблема тут заключаецца ў тым, каб, з аднаго боку, такі рэзерв быў створаны і наладжаны каналы яго папаўнення ў выпадку ўзнікнення крызіснай сітуацыі, а з другога, каб ён працаваў на рэальны сектар эканомікі, не амярцвляючы матэрыяльныя рэсурсы. Той факт, што вытворчасць у рэспубліцы нават у самы востры перыяд расійскага крызісу не спынілася, падкрэслівае, што ў цэлым дзяржава з гэтай праблемай спраўляецца.

Нарэшце, трэці фундаментальны ўрок заключаецца ў тым, што эканамічная сістэма дзяржавы павінна быць адэкватная тым умовам, у якіх яна функцыянуе. Я маю на ўвазе перш за ўсё развіццё фондавага рынку. Менавіта штучнае, фарсіраванае фарміраванне фондавага рынку ў Расіі справакавала там вельмі моцнае ўзрушэнне фінансавай сістэмы. З другога боку, неразвітасць у Беларусі з-за шэрагу прычын гэтага рынку адыграла ролю аднаго са значных амартызатараў, пры дапамозе якога ўдалося не дапусціць перакладання на нас у поўным аб'ёме наступстваў сусветнага фінансавага крызісу. Адсюль вынікае, што фіктыўны капітал, г. зн. каштоўныя паперы, таксама павінен мець пэўную крытычную рысу, пераступаць якую эканамічна немэтазгодна, бо гэта падрывае дзяржаўныя фінансы. У Расіі гэту крытычную рысу пераступілі, і мы ўбачылі, як быццам у трубу вылецела каласальная колькасць крэдытных рэсурсаў, а многія банкі па сутнасці сталі банкрутамі. На мой погляд, мы павінны самым сур'ёзным чынам прааналізаваць гэту сітуацыю, каб не дапусціць разбурэння ўласнай эканомікі, уключаючы той жа фондавы рынак.

І апошняе. Крызіс у Расіі яшчэ раз паказаў, што «жарты» з фінансамі заканчваюцца вельмі кепска. Таму падатковая, фінансавая дысцыпліна з'яўляецца адной з галоўных умоў эканамічнай стабільнасці дзяржавы. Значыць, дзяржава павінна праводзіць тут самую цвёрдую палітыку. А акрамя таго неабходна стварыць такую прававую базу, якая б забяспечвала надзейнае функцыянаванне эканомікі, у тым ліку і ў перыяд крызісаў.

**— У сувязі з эканамічным крызісам у Расіі шмат гаворыцца аб тым, што рэспубліцы неабходна рабіць разнастайнымі свае знешнеэканамічныя сувязі...**

— Гэту выснову ніхто ніколі не аспрэчваў. Аднак тут трэба добра разумець, што Расія з'яўляецца нашым стратэгічным партнёрам. Таму я лічу няправільным, калі гавораць: давайце менш працаваць з Расіяй, а больш з іншымі краінамі. Наадварот, мы павінны ўсімі спосабамі развіваць і ўмацоўваць эканамічныя сувязі з нашай усходняй саюзніцай, улічваючы той рэальны факт, што 70 працэнтаў беларускага знешнегандлёвага абароту прыпадае на Расію. Разам з тым, не згортваючы работу на расійскім накірунку, неабходна рэзка актывізаваць намаганні па ўсіх астатніх вектарах нашай знешнеэканамічнай дзейнасці. На жаль, у нас на сённяшні дзень вельмі слабыя адносіны з пункту гледжання патэнцыяльных магчымасцяў з самымі блізкімі суседзямі — Украінай і краінамі Балтыі. Таму лічу надзвычай актуальнай задачай усіх нашых знешнеэканамічных і галіновых міністэрстваў і ведамстваў зрабіць сур'ёзныя крокі па дыверсіфікацыі вытворчасці ў бок павышэння канкурэнтаздольнасці і выхаду на іншыя рынкі. Бо чым больш у нас будзе дыферэнцыраваная сістэма знешнеэканамічных сувязяў, тым больш будзе амартызацыйных падушак пры любых крызісах.

**— Многія беларускія прадпрыемствы, завязаныя на расійскі рынак, у сучасны момант выручае бартэр, супраць якога было выпушчана так шмат крытычных стрэл. Ці пацягне за сабой гэтая акалічнасць пэўную карэкціроўку ў далейшым развіцці эканамічных адносінаў нашых суб'ектаў гаспадарання як з расійскімі, так і іншымі замежнымі партнёрамі?**

— Сапраўды, сітуацыя на сённяшні дзень такая, што плацежаздольнасць нашых партнёраў у Расіі сур'ёзна падарвана. Мы атрымалі паведамленне статыстычных органаў аб тым, што інфляцыя за першыя сем дзён верасня склала ў Беларусі 2,8 працэнта, а ў Расіі — 35,7 працэнта. У такой сітуацыі ў якасці часовай меры мы вымушаны працаваць на бартэрнай аснове, каб падтрымаць рэальны сектар эканомікі. Зразумела, бартэр сведчыць аб дрэнным стане эканомікі. Аднак, з другога боку, ён дае магчымасць прадпрыемствам працаваць ва ўмовах плацежнага крызісу. І іншых механізмаў у гэтай сітуацыі не дадзена. Таму што выправіць становішча могуць толькі працуючыя прадпрыемствы. Дарэчы, жыццё пераканаўча паказала, што менавіта падтрымка рэальнага сектара эканомікі дала нам магчымасць мінімізаваць наступствы крызісных з'яў у сусветнай гаспадарцы. Бо рэальны сектар забяспечыў значную долю насычэння ўнутранага спажывецкага рынку, асабліва харчовага, не кажучы ўжо аб тым, што дазволіў рэгулярна выплачваць заработную плату, пенсіі і іншыя сацыяльныя дапамогі. Таму можна колькі заўгодна разважаць аб плюсах і мінусах дзяржаўнага ўмяшання ў эканоміку, але без падтрымкі яе рэальнага сектара немагчыма вырашыць эканамічныя і сацыяльныя праблемы. Хаця, канешне, выкарыстанне бартэра пры гэтым з'яўляецца часовай мерай, якая дазваляе рэальнаму сектару праіснаваць пэўны прамежак часу ў складанай сітуацыі. Па меры ўмацавання эканомікі, пазіцый суб'ектаў гаспадарання неабходнасць у бартэры знікне сама сабой.

**— Вы ўпамянулі аб дзяржаўным рэгуляванні эканомікі. Наколькі жорсткім, на ваш погляд, яно павінна быць, асабліва ў перыяд крызісу?**

— Я ўсё больш пераконваюся ў тым, што па меры развіцця сусветнай гаспадаркі ўзровень дзяржаўнага рэгулявання эканомікі павышаецца. Аднак гаворка пры гэтым ідзе не аб павелічэнні аб'ёму ўмяшання дзяржавы ў эканамічныя працэсы, а аб дыверсіфікацыі рэгулявання. Іншымі словамі, чым больш складанай становіцца эканамічная сістэма, тым больш разнастайнай, глыбокай робіцца роля дзяржавы ў рэгуляванні яе функцыянавання. Асабліва наглядна гэта выяўляецца ў моманты крызісаў, калі патрабуецца «ручная настройка» працэсаў у эканоміцы. Уласна кажучы, гэта выснова пацвярджаецца практыкай усіх краін. Дарэчы, і першыя заявы новага кіраўніцтва расійскага ўрада сведчаць аб тым, што яно мае намер узмацніць ўмяшанне ў эканоміку краіны з тым, каб спыніць яе развал. Гэта аб'ектыўны працэс. Таму лічу, што кіраўніцтва рэспублікі робіць вельмі правільна, калі захоўвае за сабой рулі кіравання эканомікай, вызначаючы правілы гульні і вектар развіцця.

**— У сувязі з сённяшняй эканамічнай сітуацыяй якія, на ваш погляд, аптымальныя суадносіны паміж апорай на ўласныя сілы і магчымасці і прыцягненнем замежнага капіталу?**

— Тут неабходна ўлічваць дзве акалічнасці. Першая — ва ўмовах крызісу ў краіне знешні інвестар заўсёды будзе шукаць больш выгаднае месца для размяшчэння свайго капіталу. Але з другога боку, калі ўсе ўнутраныя рэзервы будуць эфектыўна задзейнічаны для развіцця эканомікі, то і замежныя партнёры будуць зацікаўлены ў тым, каб аказаць падтрымку. Таму задача заключаецца ў тым, каб максімальна мабілізаваць уласныя сілы, адначасова шукаючы магчымасці для прыцягнення замежных інвестыцый. І калі такая мабілізацыя будзе ў наяўнасці, то знешні інвестар прыйдзе абавязкова. Хаця, зразумела, пры гэтым нельга забываць аб тым, што любы крэдыт — гэта перш за ўсё доўг, які рана ці позна давядзецца аддаваць. Вось чаму я лічу стратэгічна правільнай палітыку нашай дзяржавы, накіраваную на забеспячэнне крэдытнай бяспекі краіны. Разам з тым, безумоўна, неабходна больш актыўна ствараць эканамічныя і прававыя ўмовы для больш шырокага прыцягнення ў рэспубліку замежных інвестыцый.

# У ноч на 22-га верасня...

## Адплата: погляд праз 55 гадоў

**Гэта была адна з лепшых удала завершаных антыфашысцкіх аперацый Другой Сусветнай вайны. У ноч на 22 верасня 1943 года ў спальным пакоі гаўляйтэра Вільгельма Кубэ ўзарвалася міна. Акупіраваная, знясіленая ад гвалту і смерці рэспубліка вынесла смяротны прыгавор кату беларускага народа.**

**Сімвалічна, што галоўнымі дзеючымі асобамі гэтай аперацыі былі жанчыны. Прозвішчы Марыі Осіпавай і Алены Мазанік вядомыя, бадай што, усім. Аднак у сувязі з гэтай аперацыяй называюцца прозвішчы і многіх іншых патрыётаў.**

**Напярэдадні Дня Перамогі мы сустракаліся з Марыяй Барысаўнай Осіпавай — менавіта яна пранесла ў акупіраваны Мінск міну для Кубэ (гл. «Звязду» за 8 мая 1998 г.).**

**Наша сённяшняя суразмоўца — вядомы гісторык Р. А. Чарнаглазава — была добра знаёма з Аленай Рыгораўнай Мазанік. Раіса Андрэеўна — выдатны знаўца ваеннай гісторыі: на працягу амаль чатырох дзесяцігоддзяў узначальвала аддзел гісторыі партызанскага руху Дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, а зараз — рэдактар навукова-метадычнага цэнтра па напісанню кніг-хронік «Памяць».**

### Акцэнты

**— Пра знішчэнне Кубэ сказана, здаецца, вельмі многа...**

— І многа, і мала адначасова. Відаць, гэта непазбежна — імкненне паглядзець крыху інакш на буйныя гістарычныя падзеі праз пэўны адрэзак часу... Таму рыхтуючыся да нашай гутаркі, яшчэ раз перачытала дакументы. Газета «Мінскер цайтунг», якая выдавалася ў Мінску на нямецкай мове, ужо 22 верасня дала афіцыйнае паведамленне: ноччу Кубэ стаў ахвярай... Дакладная запіска асобай камісіі генеральнага камісарыята Беларусі па выніках расследавання забойства Кубэ ад 29 верасня 1943 года. Шмат матэрыялаў пра жыццёвы шлях гаўляйтэра.

**— У 4-м томе «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (выданне 1997 года) змешчаны даволі вялікі артыкул пра Кубэ (па памеру амаль аднолькавы з артыкулам пра народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова, што літаральна праз некалькі старонак). Выклікае неўразуменне і фотаздымак(!) побач з артыкулам пра ката беларускага народа — В. Кубэ ўручае ўзнагароду Я. Калубовічу...**

— На жаль, у некаторых крыху зрухваюцца акцэнты. Тое, пра што вы гаворыце, відаць, выказвае пазіцыю Энцыклапедыі... Але для нас Кубэ — увасабленне ворага, які прыйшоў на беларускую зямлю з вайной. Ён быў выразнікам нацысцкай ідэі. Тое, што бачылі мінчане ў гады вайны, непасрэдна «завязвалася» на імені Кубэ. Дзе ён жаніўся-хрысціўся, для нас адыходзіць вельмі далёка, мы не можам разглядаць яго ў чыста чалавечым аспекце — мы гаворым пра тое, што ён рабіў і кім ён быў для Беларусі.

Пра забойства Кубэ пісалі шмат, але ў многім аднабока — асвятлялі падрабязна вынік гэтай аперацыі з адной пазіцыі. Тады як на знішчэнне Кубэ працавала шмат партызанскіх атрадаў, шмат спецатрадаў. Адна з самых удала завершаных ліній добра асветлена, іншыя намаганні патрыётаў — крыху ў цяні. Алена Мазанік палажыла міну ў спальні гаўляйтэра, Марыя Осіпава прынесла міну ў акупіраваны Мінск. Але ў некаторых выклікае неўразуменне: чаму Надзеі Траян прысвоена званне Героя Савецкага Саюза, чаму Галіна Фінская ўзнагароджана ордэнам Леніна... На самай справе ішло доўгае паляванне на Кубэ. Дарэчы, яго называлі «кабаном», і кодавая назва аперацыі была — «Паляванне на кабана».

### Вайна на знішчэнне

**— Шмат размоў пра тое, што не варта было знішчаць Кубэ...**

— Сёння гавораць: правільна — няправільна... Народ, любы народ, заўсёды знішчае ворага, які ўварваўся ў яго дом з агнём і мячом. Гэта біблейская ісціна. Хіба нармальнае пытанне: а ці варта было ваяваць?.. Калі б не варта, дык сёння Беларусь была б часткай Германіі — і не было б каму змагацца з фашызмам.

**— Жыццё наша несалодкае, не-не дый пачуеш: хай бы мы не перамагалі, жылі б тады як у Германіі...**

— У тым і справа, што не жылі б! Мясцовыя жыхары падлягалі знішчэнню. У Рыжскім архіве ў раздзеле дакументаў «Отсланд» — частка Беларусі з Прыбалтыкай уваходзіла менавіта ў гэтую адміністрацыйную адзінку — захоўваецца цікавая карта каланізацыі 1942 года: якой павінна была быць тэрыторыя Беларусі. Каля назваў нашых буйных гарадоў і райцэнтраў — злавесныя кружочкі з дзвюма лічбамі: у верхнім — колькі пасяліць немцаў, у ніжнім — колькі пакінуць мясцовых жыхароў для абслугоўвання «вышэйшай расы»...

**— А некаторыя сцвярджаюць: менавіта пасля забойства Кубэ фашысты люта помсцілі, яшчэ больш жорстка забівалі і палілі...**

— Мне не падабаецца сама пастаноўка пытання: «пасля»... А хіба Мінск з 1941 па 1943 год не ведаў ніякіх рэпрэсій? Колькі было праведзена карных аперацый, пра якія шырока і з захапленнем паведамлялася германскім уладам і мясцовым жыхарам. Горад падзялялі на асобныя раёны, каб больш «акуратна» прайсці па кожнаму двару, кожнаму дому, кожнай кватэры... Чамусьці мы забываем пра самае галоўнае — гэта была вайна на знішчэнне. Вайна за сусветнае панаванне.

Паглядзіце дакумент: 21 мая 1943 года шэф паліцыі бяспекі СД паведамляў з Беларусі пра буйную аблаву ў Мінску. Праведзена блакіроўка горада адпаведна шасці ўчасткам — аперацыя праводзілася 6 дзён. Сіламі трох паліцэйскіх палкоў вермахта. Кубэ тады быў жывы і здаровы... А хіба ў 1941-42 гадах не бачылі трупы павешаных і вясной і восенню? А бясконцыя пагромы ў гета?.. Горад разумеў: сёння — яны, заўтра — мы... Таму гаварыць аб тым, што ўсё было ціха-мірна ў Мінску, а потым раптам пасыпаліся рэпрэсіі... Дакументы не даюць такіх падстаў.

І яшчэ вельмі цікавы дакумент: Кубэ дакладвае Лозэ пра тое, што Мінск разбураны, але славянам гарады наогул не патрэбны — хіба што побач з Мінскам можна пабудаваць гэткі паказальна-еўрапейскі горад і назваць яго «Азград».

**— Азград?**

— Ад першай літары славянскага алфавіта — аз... У 1941 годзе гэта быццам бы і «гучала», але далейшыя падзеі на фронце, канешне, знялі гэтае пытанне: ужо не да будаўніцтва было. Але сам факт сведчыць пра многае...

### «Паляванне на кабана»

**— Кат беларускага народа — гэта за Кубэ замацавалася на стагоддзі. Але столькі ўсплывае версій, якім чынам ішла падрыхтоўка да аперацыі...**

— Чаму — версій? Гэта не версіі — праўда жыцця. На Кубэ палявалі падпольшчыкі Мінска: калі ён жыў на вуліцы Я. Купалы (у немцаў гэта была Тэатрштрасэ), за ім сачылі, назіралі, на якой машыне ездзіць і у які час, — меркавалася сутыкнуць грузавыя машыны: людзі гатовы былі ахвяраваць жыццём дзеля таго, каб знішчыць гаўляйтэра. Але ў Кубэ была выдатная інтуіцыя.

**— Нюх? Сапраўды, як у дзіка?**

— Так. А колькі мініравалі аб'ектаў, чакаючы яго прысутнасці на мітынгах, у тэатры, на выездах (у Койданаве, Баранавічах і г.д.). Рыхтавалі акцыю адплаты многія. Надзея Траян ішла ў Мінск з атрада «Дзядзькі Колі», каб устанавіць кантакты з Аленай Мазанік. Надзея наладзіла сувязь праз Таццяну Каліту, з якой да вайны разам вучылася ў медінстытуце. Каліта была пакаёўкай у Кубэ — да таго моманту, пакуль не адмовілася мыць двух вялізных сабак... Здавалася б, сувязь паступова ўсталёўвалася, мацнела — аднак усё перарвалася з-за дробязі. Аднойчы Траян прыйшла на кватэру Мазанік (гэта была адзіная пакаёўка, якая жыла ў горадзе, усе астатнія жылі ў падвале гаўляйтэрскага асабняка) і ўбачыла, што дамачадцы мыюць нямецкую бялізну — за гэта яны атрымлівалі 20 марак у месяц. У наступны раз Траян прынесла ім пачак грошай, каб падтрымаць. І гэта адыграла сваю ролю: Алена насцярожылася і стала адыходзіць ад Траян.

**— Вырашыла, што гэта нямецкая правакацыя?**

— Так... Можна прасачыць яшчэ адну лінію сувязі: у брыгадзе «Разгром» ужо дзейнічаў спецатрад Івана Залатара, прысланы з-за лініі фронту. Адтуль ішла ў Мінск Галіна Фінская — яна ведала да вайны Марыю Осіпаву. Усе гэтыя знаёмствы цесна перапляталіся — таму не заўсёды дакладна разумееш, што і як адбывалася ў аперацыі па знішчэнню Кубэ.

**— У прынцыпе, Мінск быў невялікім горадам, для падпольшчыкаў няважна было, з якога атрада «хадакі», галоўнае — сувязь з партызанамі?**

— Так. І яшчэ адзін момант. Алена Рыгораўна гаварыла: ёй вельмі важна было засведчыць праўдзівасць сувязі з партызанамі. За ўсімі сачылі... Надзея Траян адмаўлялася звязаць з партызанамі (напэўна, апасалася правакацыі таксама), а Марыя Осіпава адразу павяла сястру Алены, Валянціну Шчуцкую, у атрад. Тады стала зразумела: сувязь з Осіпавай — абсалютна надзейная. Важна было паверыць адно аднаму. У той час гэта было няпроста...

### Асабняк

**— Асабняк, дзе жыў Кубэ, разбураны?**

— Толькі таму, што пасля вайны пракладвалі новыя вуліцы.

**— Якім чынам Алена Мазанік стала пакаёўкай у Кубэ?**

— Алена Рыгораўна расказвала: напачатку працавала ў казіно (у будынку медінстытута на плошчы Леніна). Адтуль яе забралі ў асабняк Кубэ. Сястра Валянціна працавала прыбіральшчыцай у нямецкім судзе, таму ў немцаў да іх сям'і не было пытанняў.

**— Алена больш мела справу з жонкай Кубэ, Анітай?**

— Таму што яна не толькі працавала ў доме, але і гуляла з дзецьмі, вадзіла іх у парк (імя Горкага). Аніта прыехала ў Мінск з трыма дзецьмі. Яна была маладзейшая за Кубэ гадоў на 20, у мінулым гэта актрыса тэатра музкамедыі.

Мне давялося бачыць фотаздымак Аніты Кубэ ўжо пасля вайны, прыкладна ў 1993 годзе яна даслала пісьмо на імя Алены Рыгораўны Мазанік. Зараз яна вельмі набожная жанчына, пісала з вялікім роздумам пра мінулае (яна ўсё бачыла, усё чула) і раскайвалася ва ўчыненым немцамі ў Беларусі. Ніякага папроку не выказвала. У пісьме былі здымкі — яна з сынамі, адзін з іх — вельмі падобны на бацьку... Некаторыя замежныя журналісты спрабавалі наладзіць сустрэчу Алены Мазанік і Аніты Кубэ. Алена Рыгораўна вельмі абуралася гэтым.

**— А якім чынам гэты ліст трапіў да Мазанік?**

— Аніта перадала пісьмо праз нямецкіх турыстаў, яны — праз музей Вялікай Айчыннай вайны... У час выбуху 22 верасня Аніта не пацярпела — толькі нервовае ўзрушэнне з ёй здарылася.

**— Добрая міна — такога вузка накіраванага дзеяння.**

— Безумоўна... Мазанік вельмі цікава расказвала пра асабняк. 12 пакояў, тры паверхі, на кожным — асобная пакаёўка. Прычым пакаёўкі не маглі пераходзіць межы свайго ўчастка. Два ад'ютанты, Куфаль і Энштайн, пастаянна прысутнічалі ў доме і ўважліва за ўсім назіралі. Алена працавала на 3-м паверсе. Там знаходзіўся кабінет Кубэ, музычны пакой (гаўляйтэр і яго жонка ігралі на фартэпіяна, часам запрашалі музыкантаў). Гасцей высокага рангу з Германіі ён прымаў у сябе, а не ў казіно — хаця ў казіно быў адпаведны пакой для гасцей. На 3-м паверсе таксама быў пакой Аніты, сталовая для гасцей і спальня. Асабняк звычайна абслугоўвалі 5 чалавек. Алена прыходзіла раніцай, працавала цэлы дзень, вечарам вярталася дахаты. Ахова і каменданты яе добра ведалі.

**— Яна гаварыла па-нямецку?**

— Не, толькі асобныя словы — прыслухоўваючыся. Гутарылі звычайна праз камендантаў: тыя разумелі... Кубэ не ведаў рускай мовы, ды і наогул ён хадзіў па асабняку з такім выглядам, што акрамя яго і сям'і нікога няма. Адносіны да прыслугі — як да мэблі...

### Міна

— Міну яна пранесла ў сумачцы. Удача: быў «лазневы» дзень. У асабняку Алена падвязала міну да грудзей. Расказвала, міна няцяжкая, але эмацыянальны стан (яна ведае, міна заведзена, а раптам што-небудзь здарыцца)... У яе была магчымасць пакласці міну ў патаемным месцы, але вырашыла: калі што, дык лепш адразу (яна разумела магчымыя наступствы).

... Яна ўсё зрабіла, прыбрала і ў 11 гадзін была гатова. З унутранага боку спружын ложка падлажыла міну і, спаслаўшыся на зубны боль, выйшла з асабняка. З Осіпавай сустрэлася ў скверыку ля Купалаўскага тэатра — машына з Мікалаем Фурсам іх чакала каля опернага тэатра.

Яны прыехалі ў вёску Янушкавічы, вельмі доўга не праходзіў унутраны стрэс: яны зрабілі справу, удалося ўцячы, але хваляваліся — ці завершыцца аперацыя паспяхова?.. Прыйшлі з Мінска сувязныя — усё ў парадку. Мазанік расказвала: так сколанулася сэрца, што дыхаць было цяжка. Змяшаліся ўсе пачуцці — і вызваленне ад страху, ад стрэсу, і радасць ад таго, што адбылося, і яны засталіся жывымі... З партызанскага аэрадрома паляцелі ў Маскву, прызямліліся ў Сярэбраным Бары. Іх адвезлі ў гасцініцу — там іх пасялілі паасобку. Выклікалі на гутарку па адным... Як потым патлумачылі, ішла своеасаблівая спрэчка, высвятленне адносінаў паміж разведупраўленнем Чырвонай Арміі і КДБ — таму што ўсе групы і атрады працавалі з адным заданнем «на кабана». І кожны з патрыётаў унёс свой уклад у агульную справу: адны знайшлі Мазанік, другія наладзілі з ёй сувязь, дзесьці яна сарвалася (як у Траян), у Осіпавай — падтрымалася, Фінская збірала звесткі... Агульныя намаганні і прывялі да таго, што адбылося ў Мінску ў ноч з 21 на 22 верасня 1943 года.

...Развітанне з Кубэ адбывалася ў Доме афіцэраў, там стаяла труна з яго целам. Потым на лафеце пакрытую фашысцкім сцягам труну накіравалі ў Мачулішчы, адтуль самалётам — у Берлін...

● Камароўка. 26 кастрычніка 1941 года.

### Яго Вялікасць Дакумент

**—Ёсць яшчэ адна версія: немцы быццам бы самі забілі Кубэ, таму што ён быў надта лаяльным да мясцовага насельніцтва.**

— Сёння можна высоўваць шмат версій... Кубэ быў не выпадкова накіраваны ў Беларусь. У яго былі свае грахі ў Германіі, але адданасць нацыянал-сацыялізму, Гітлеру патрабавала перавесці яго сюды, далей ад Германіі, і ў пэўным сэнсе выратаваць яго. Забілі яго немцы? — гэта б рана ці позна стала вядома. Але першае ж следства па гарачых слядах цалкам выключыла гэтую версію.

**— Так ці інакш, немцам пасля вайны было б выгадна прызнаць, што і ў радах фашыстаў былі антыфашысты?**

— Безумоўна. У 90-х гадах чамусьці сталі актыўна гаварыць, які Кубэ прыхільнік беларушчыны, — але пры гэтым «забываюць» упамянуць, колькі беларусаў было знішчана.

**— Шмат размоў пра Кубэ і як пра абаронцу яўрэяў.**

— Калі я працавала над кнігай «Трагедыя яўрэяў Беларусі ў 1941—1944 гадах», знайшла ліст Кубэ, дзе яшчэ ў снежні 1941 года ён піша генеральнаму камісару Остланда Лозэ: «На сваю адказнасць я не дам СД ніякіх указанняў адносна абыходжання з гэтымі людзьмі (яўрэямі, што прыбылі з Германіі, на той момант гэта каля 6—7 тыс. чалавек. - **Аўт**.)... Я цвёрды ў сваім меркаванні і жаданні садзейнічаць вырашэнню яўрэйскага пытання». Маецца на ўвазе знішчэнне яўрэяў. І далей:» «Але гэтыя людзі, якія належаць да нашай культуры, адрозніваюцца да тупога статка мясцовых».

**— Мясцовыя — яшчэ горшыя за яўрэяў?**

— Сведчанне дакумента.. І далей: «Магчыма, ускласці масавыя расстрэлы на літоўцаў і латышоў, якія чужыя і мясцоваму насельніцтву...» Вось і ўвесь Кубэ: яўрэйскае пытанне павінна быць вырашана, яўрэі павінны быць знішчаны — яго толькі цікавіць, каб не немцы знішчалі нямецкіх яўрэяў.

Упершыню пусціў у абарот меркаванне, што Кубэ — сябар яўрэяў, польскі вучоны Туронак. Ён прывёў сваю інтэрпрэтацыю некаторых дакументаў — і ў прыватнасці пісьма, якое цытавалася вышэй. Я зрабіла ўсё магчымае, каб знайсці арыгінал. Аказалася, Туронак не дагаворвае некаторыя рэчы: Кубэ цвёрды ў канчатковым вырашэнні яўрэйскага пытання.

**— А дзе знаходзіцца пісьмо?**

— Я знайшла яго ў інстытуце Яд Вашэм у Іерусаліме... Мне не вельмі прыемна, калі калегі-гісторыкі чытаюць адзін і той жа дакумент, а бачаць у ім розныя рэчы.

**— Гэта ўжо не гісторыя, а палітыка?**

— Нават не ведаю, ці палітыка... Проста, гэта не зусім сумленны падыход да дакумента. Чалавек, які чытае напісанае паводле дакумента, — ён верыць. Калі я чытала Туронка, а таксама некаторыя манаграфіі, што пачалі выходзіць у 90-х гадах, калі раптам абрушыліся на партызан, сталі ўсхваляць тых, хто супрацоўнічаў з фашыстамі... Мяне гэта збянтэжыла. Відаць настаў час, калі не манаграфія патрэбна, а збор дакументаў: тут не схлусіш. Гісторык павінен прывесці дакумент, даць спасылку і ўзяць поўную адказнасць за яго змест.

**— Дакумент без купюр?**

— Безумоўна. Кожны, хто чытае дакумент, павінен думаць, вызначаць сваё разуменне пытання.

**— А каму выгадна зараз абяляць Кубэ, на чый млын льецца вада?**

— Канешне ж, не на млын праўды гісторыі... У гэтым я бачу глыбокую падспудную ідэю сказаць няпраўду пра тую жорсткую праўду вайны. Я разумею, што ўзаемаразуменне і прымірэнне народаў будзе адбывацца, але на фоне таго, што перажыла Беларусь, гэта будзе адбывацца складана. І мне здаецца, мы абавязаны шкадаваць ваеннае пакаленне — у гэтай вайне яны страцілі ўсё. І сёння можна разумнічаць, пісаць вялікія манаграфіі — але гэта за кошт таго, што ваяваўшае пакаленне недавучылася, недакахала, недажыло... Гэта смяротны грэх — адступаць ад праўды вайны.

**Гутарыла Таццяна ПАДАЛЯК.**



## ВОСЕНЬСКІ НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

# ВЕРАСЕНЬ

**21/8. Багач (Багатнік, Багатуха, Гаспожка Багатая, Малая Прачыста, Прачыста, Другая Багародзіца, Другая Прачыста, Другая Спажа, Спожка, Другі святок, Нараджэнне Божае Маці, Зельная)** — старажытнае свята заканчэння ўборкі збожжавых, водгук язычніцкага свята земляробчага культу «бога сонца, бога дастатку і багацця». Гэтае боства ўшаноўвалася і ў іншыя дні, якія стаяць блізка да асенняга раўнадзенства. У некаторых раёнах лічылася першым днём восені. Гаварылі: *«Другі святок — восень, браток»*.

Як вядома, у многіх раёнах лічылася, што на 21 верасня заканчваецца «бабіна лета». Гэта і лагічна, бо з'яўляецца напярэдадні асенняга раўнадзенства.

Дык вось. Марыя, маці Ісуса, спрабавала сшыць перададзеную ёй вешчунамі пялёнку для сына. Але вецер яе панёс. Праз колькі гадоў, калі Святая Марыя плакала каля распятага на крыжы сына, ніткі, якія калісьці вырваліся з яе рук, сабраліся з усіх канцоў свету і, абвіўшыся вакол крыжа, утварылі выратавальную мяккую пялёнку. З-пад яе пачуўся голас: «Мама, мама, навошта ты імкнешся зменшыць мае пакуты? Ніткі Прасвятой Дзевы, пакіньце мяне і ідзіце закрываць гора чалавечае!» Вось з таго часу і лятаюць ніткі-павуцінкі па ўсім свеце пасля дня нараджэння Багародзіцы.

*Засідкі* — пачатак хатніх жаночых работ, прадзення. *«Засідкі — бабы ўзяліся за верацяно»* (Ельнінскі павет).

**22-23.** Дзень астранамічнага восеньскага раўнадзенства.

**24/11. Тадора (Фёдар, Фядорын дзень).** У пару восеньскага раўнадзенства прысвятак напамінаў аб важнай змене ў годзе (*«На Тадору ўсякае лета канчаецца»*) і пацвярджалася, што на Фёдара адлятаюць стрыжы.

**26/13. Стаўры, Стаўроўскія Дзяды** — памінальны звычай. Па сведчанню збіральніка фальклору і святара с. Гняздзілава Аляксандра Троіцкага, Стаўры спраўляліся на Віленшчыне напярэдадні Узвіжання. Малолася новае зерне на пірагі, колькасць якіх адпавядала членам сям'і, і перапечкі для жабракоў і царквы. Рэзалася авечка, варыліся крупнік і квас. Жанчыны галасілі па памерлых родзічах, наладжвалі традыцыйную вячэру. Той жа святар (царква таксама прымала ўдзел у памінанні памерлых) заўважаў: у Стаўрах «адзін усяго забабон у тым, што селянін верыць у прыход на вячэру сваіх нябожчыкаў».

Па сведчаннях з Дзісенскага павета, Стаўроўскія Дзяды адзначалі перад Тройцай і яны мелі язычніцкае паходжанне.

**27/14. Здвіжанне (Узвіжанне, Звіжанне, Хрыст, Часнэйка)** — свята «закрывання» зямлі на зіму, якое звязана з вужамі і мае значэнне «руху». Лічылася, што сонца і прырода «грае, здзвігаецца», «іграе і дрыжыць» усімі колерамі. *«На Узвіжанне халат з плеч, а кажух на плечы»*. «К Звіжанню ўсё далжно быць здзвінута — г. зн. увесь хлеб азімы і яравы павінен быць звезены з поля». *«На Здзвіжання — бацюшка ў цэркві здзвігаіцца»* (Рагачоўскі раён). «Дзвіжанне — гадзюкі здзвігаюцца ў кучу» (Новасібірская вобл., ад беларусаў з Магілёўскай губерні). У гэты дзень не хадзілі ў лес, бо там нібыта збіраліся ў клубкі гадзюкі і вужы, каб схавацца ў норы на зіму. Існуе легенда, нібы ў цара гадзюк на галаве ёсць залатыя рожкі. Трэба раніцай на Звіжанне ўпільнаваць, калі будзе грэцца на сонцы клубок гадзюк з царом і ўдарыць па ім адзін раз «паплiскаю» — схапіць рожкі і збегчы. Лічыцца, што такая карона здымае ўсе замкі і запоры. Лоўка ёю карыстацца зладзеям (Слуцкі павет). Загаворвалі кароў ад гадзюк. У замовах цара вужоў называлі па-рознаму, у тэксце з Карманшчыны апавядаецца: *«Прыедзе святы Юры на белым коніку з вострай коп'ёй, з вострай мечай, з колкай шупшынаю, стрыкучай крапіваю. На свентым Здзвіжэнні будзе вам там крушэнне...»*

Увесь тыдзень («свістун») не сеялі, каб не было пустых каласоў. На Тураўшчыне гаварылі: *«До Йвана сяўба кохана, а послі Здзвіжанья трэ добро рукою дзвігаць!»*. У валачобных песнях ёсць такія словы: *«Святая Прачыста папары мяшаець, святое Узвіжанне з поля збіраець», «бульбу капаець», «сцеліць лянок»*.

Гэты дзень называлі і «Часнэйка», таму што ўпершыню пасля Вялікадня дазвалялася паесці часнаку той сям'і, у хаце якой быў нябожчык. Смаленскія беларусы яшчэ называлі «Хрыст», ці «Хрыстос».

У назіраннях за прыродай значная роля адводзіцца птушкам, якія забіралі з сабой лета. *«Узвіжанне — апошні воз з поля рушыў, а птушкі ў вырай пацягнуліся»; «Узвіжанне лета замыкае, ключык шызая галачка за мора панесла»*.

Можна меркаваць аб тым, што ў дахрысціянскі перыяд нашы продкі ў асеннюю пару займаліся магіяй супраць гадзюк, бо нямала слядоў гэтага засталося ў фальклоры. У рускіх традыцыях былі скіраваны на ўборку і засолку капусты, таму і называліся ўздзвіжанскім «капустным тыднем».

Паводле наяўнага фальклорнага матэрыялу складваецца ўражанне, што хрысціянскае значэнне свята беларусам было незразумелым, і асацыяцыя са словамі «рух» (сдвиг) узнікла ў хрысціянскі перыяд. А ён прынёс свята людзям 13 верасня 335 г., калі быў асвечаны ў Канстанцінопалі храм у гонар Уваскрэсення Хрыстова на месцы знішчэння язычніцкага капішча, пад якім былі знойдзены Труна і Крыж Гасподні і ўстаноўлены («воздвигнуты») на радасць хрысціян. У наступны дзень і сталі адзначаць свята Устанаўлення Чэснага і Жыватворнага Крыжа Гасподняга.

Як сведчаць летапісы, там гэты дзень вядомы пад назвай «Стаўрова дня», што тлумачыцца грэчаскім словам «саурос» — крыж. У нас захавалася гэтае слова ў папярэднім дні «Стаўры, Стаўроўскія Дзяды».

**29/16. Міхал.** *«На Міхала ясная ноч — будзе трывалая зіма. Калі на Міхала з поўначы вецер вее, то ня май на надвор'е надзеі»* (БСК, 1937; Сахараў, 1937).

Сіцыян, прысвятак, які звязаны з ільном. У валачобнай песні значыцца:

Свята Ўздзвіжэня да з поля здзвіжыла.

Святы Сіцыян да ляны пасцілаў,

Святы Багуслаў да буракі капаў.

Іншых згадкаў пра прысвятак пакуль не знойдзена. Магчыма, так адзначаны дзень паміж Узвіжаннем і Багуславам у гонар хрысціянскага пакутніка Севасціяны (І ст.).

**Алесь ЛОЗКА.**

## ВЫ ПРАСІЛІ РАСКАЗАЦЬ

# ЮНАЯ КІНАЗОРКА, НА ЖАЛЬ, «ЗГАРЭЛА» ВЕЛЬМІ ХУТКА...

***У дзяцінстве я вельмі любіла глядзець тэлевізійныя фільмы «Корцік» і «Бронзавая птушка», у якіх адну з галоўных роляў цудоўна выконваў тады яшчэ малавядомы, але здольны хлопчык Сяргей Шчупачэнка (магчыма, прозвішча я дакладна і не памятаю).***

***Паважаны «Пытальнік», хацелася б ведаць, у якіх фільмах яшчэ здымаўся Сярожа і як склаўся яго далейшы лёс?***

**Святлана БАРСУКОВА,** *г. Орша* (па тэлефоне).

Адразу зазначым, паважаная Святлана, што лёс гэтага юнага кінаакцёра склаўся трагічна. Але сапраўднае яго прозвішча — Шаўкуненка.

Сяргей Шаўкуненка нарадзіўся 20 лістапада 1959 года ў інтэлігентнай творчай сям'і: яго бацька, Юрый Аляксандравіч, быў дырэктарам 2-га творчага аб'яднання кінастудыі «Масфільм», дзе таксама працавалі яго маці Паліна Васільеўна.

Як ні дзіўна, але толькі на 41-м годзе жыцця яна нарадзіла мужу доўгачаканага сына. У гонар такой выключнай падзеі бацька нават напісаў п'есу «Сярожка з Малой Броннай», якая на працягу двух дзесяцігоддзяў не сыходзіла са сцэны многіх вядомых тэатраў.

Аднак лірычная эпоха нечакана скончылася: раптоўна памёр бацька. І на руках маці засталіся дачка і 4-гадовы сын. У гэты цяжкі час, варта адзначыць, моцна дапамог вядомы ўжо тады рэжысёр Эльдар Разанаў.

Магчыма, з яго дапамогай, калі ў 1973 годзе на тэлебачанні пачаліся здымкі трохсерыйнага фільма «Корцік» паводле аднайменнай аповесці Анатоля Рыбакова, трапіў на пробы і Сяргей Шаўкуненка. І не толькі трапіў, а быў асабіста самім А. Рыбаковым зацверджаны на галоўную ролю — Мішы Палякова.

Паводле ацэнкі спецыялістаў, трынаццацігадовы хлапчук выканаў яе адмыслова. Таму зусім не выпадкова ў 1975 годзе яго запрасілі прыняць удзел у здымках трохсерыйнага тэлефільма «Бронзавая птушка». Затым, як кажуць, на адным дыханні ён сыграў прапанаваныя ролі ў фільмах «Знікшая экспедыцыя», «Залатая рэчка».

Наперадзе яркай зоркай свяціла заманлівая будучыня, калі б не той неверагодны выпадак. Пасля распітай з сябрам бутэлькі партвейна вяртаўся Сяргей дамоў, і ў парку яму раптам захацелася пагладзіць аўчарку, якую выгульваў мясцовы гараджанін. Аднак гэты бяскрыўдны намер скончыўся тым, што гаспадар сабакі даў яму каманду «фас», а юны кінаакцёр моцна ўрэзаў незнаёмаму па фізіяноміі.

Гагарынскі суд сталіцы кваліфікаваў такую «выхадку» адным годам пазбаўлення волі. Вось пасля гэтага жыццё маладога чалавека і пакацілася пад адхон.

Адным словам, свой першы тэрмін С. Шаўкуненка адбыў добрасумленна ад званка да званка. І, варта зазначыць, не без карысці. У лагеры ён атрымаў сярэднюю адукацыю і пасля выхаду на волю вярнуўся на родны «Масфільм»: уладкаваўся асвятляльнікам. Здавалася б, працуй і жыві, як усе нармальныя людзі. Дык не, д'ябал зноў падбіў на зусім бяздумны «подзвіг». Калі значна падагрэтай ужо кампаніі не хапіла звычайнай закусі, ён добраахвотна пайшоў на «экспрапрыяцыю» яе ў масфільмаўскім буфеце. За гэты паход суд даў 4 гады зняволення.

Пасля другой адсідкі С. Шаўкуненка выйшаў на волю ўжо «шэфам». Толькі нядоўга пагуляе ён вольным казаком: у 1982 годзе яго зноў арыштавалі за крадзеж і захоўванне наркотыкаў. Хоць сур'ёзных доказаў яму і не прад'явілі, а ўсё ж «упяклі» на 4,5 года. У гэты час «на зоне» ён і захварэў на туберкулёз у адкрытай форме. Дзеля выратавання сына Паліна Васільеўна ў адчаі піша пісьмо Раісе Максімаўне Гарбачовай, але, на вялікі жаль, ніякага адказу ад яе так і не дачакалася. Больш таго, Сяргей не тое што не атрымаў датэрміновага вызвалення, а яму тым часам далі «даважку» — 1,5 года. За што? За тое, што не згадзіўся па прапанове аператыўніка стаць даносчыкам.

Як тапелец у апошнія імгненні спрабуе схапіцца за саломінку, так і гэты фізічна і духоўна пакалечаны хлопец імкнецца да жыцця. У Маскве яго, аднак, не прапісалі, і ён, інвалід ІІ групы, у свае 27 гадоў больш года не пакідаў бальнічнага ложка ў Смаленску.

Пасля выхаду з бальніцы Сяргей, як ні дзіўна, ажаніўся, але сямейнае жыццё працягвалася зусім нядоўга. Работнікі міліцыі, якія зусім нечакана нахлынулі ў кватэру з вобыскам, знайшлі пісталет. Жонка Сяргея Алена так растлумачыла гэты непрадказальны інцыдэнт: «Нейкі мужчына папрасіў перадаць гэты пакет Сяргею. Я ўзяла яго. А літаральна праз дзесяць хвілін — міліцыя. Яна і знайшла ў пакеце пісталет».

«За незаконнае захоўванне зброі» прыгавор суда быў адзін год пазбаўлення волі... Калі Шаўкуненка ў апошні раз (шэсць судзімасцяў) пакінуў вароты да драбніц вядомай яму ўстановы, ён вырашыў заняцца бізнесам. Праўда, таксама своеасаблівым, незаконным. За даволі кароткі час ён «арганізаваў» брыгаду, якая стала кантраляваць (больш дакладна, бессаромна браць «падатак») гандлёвыя кропкі ў раёне Масфільмаўскай вуліцы. Але праўду кажуць: там, дзе справа абарочваецца вялікімі, дармавымі грашамі, абавязкова час ад часу адбываюцца «разборкі», якія нярэдка заканчваюцца трагедыяй.

Так менавіта здарылася і ў гэтай няпростай гісторыі. Сяргей, як шэф, у апалове дванаццатай ночы прыехаў да свайго дома № 3 па вуліцы Пуднікава. Як звычайна, адпусціў ахову, накіраваўся ў свой знаёмы пад'езд і...

Атрымаў першую кулю ў жывот, другая ж прадзіравіла дзверы ліфта, у якім Сяргей хацеў выратавацца ад нападу. І ён, як потым пацвярджалі суседзі, магчыма, выратаваўся б. Аднак у спешцы пакінуў ключы ў замку. А забойца, што называецца, бег па яго слядах. Ён уварваўся ў кватэру, двума стрэламі ў галаву забіў 76-гадовую Паліну Васільеўну, якая выбегла на раптоўны шум. Затым трыма стрэламі ў галаву канчаткова быў дабіты і яе сын — Сяргей Шаўкуненка.

Як сцвярджаюць спецыялісты, якія займаліся гэтай гісторыяй, такія людзі, як Сяргей Шаўкуненка, перашкаджаюць усім — і «сваім», і праваахоўным органам.

**Падрыхтаваў Іван БРАЛКА.**

ЗАО "БелГАЗавтоторг"
ЗАПЧАСТИ к а/м ГАЗ
Свыше 1000 наименований
ДВИГАТЕЛИ
Тел.: (017) 223-06-66, 243-68-02, 240-88-11, 275-97-68.

*Дарагі наш **Уладзімір ЛЯЎКОВІЧ!** Віншуем цябе з 40-гадовым юбілеем. Здароўя табе, маладосці, аптымізму яшчэ на 40 гадоў.*

**Ляўковічы, Сцяцко.**

## ВІНШАВАННІ

*Самага дарагога для нас чалавека **Вольгу Піліпаўну КАЗЯЛЕЦКУЮ** з 90-годдзем віншуюць родныя і сваякі. Жадаюць доўгага веку і здароўя без лекаў.*

Слонімскі раён, в. Глоўсевічы.

*Віншуем дарагога тату і дзядулю **Міхаіла Міхайлавіча КІРЫЛЬЧЫКА** з в. Камаі Пастаўскага раёна з 70-годдзем. Жадаем бадзёрасці. Год да ста расці нам без старасці.*

**Дзеці, унукі.**

*Любімага мужа і бацьку **Івана Іванавіча ГУРЫНА** з 42-годдзем віншуюць жонка і дзеці з в. Новая Лысіца Нясвіжскага раёна. Жадаюць здароўя, шчасця, дабрабыту.*

*З 40-годдзем, **Васіль Міхайлавіч ДАЎГАЛА.** Жадаем здароўя — яго заўжды не хапае, весялосці — яна ніколі не шкодзіць, удачы і радасці — з імі лягчэй жыць, дабрабыту.*

**Жонка і сыны,** г. Дзяржынск.

*Шчыра віншуем з 50-годдзем **Валянціну Іванаўну ВАЛЕНЦЮКЕВІЧ.** Жадаем здароўя, поспехаў штодзённа, дабрабыту, радасці багата.*

**Калектыў работнікаў Вераб'евіцкай школы.**

*Сябру, калегу па працы **Міхайлу Дзмітрыевічу АКУЛЕ** шчырыя віншаванні з нагоды дня нараджэння. Шчасця табе, моцнага здароўя, кахання.*

в. Лазавічы.

*Сардэчна віншуем з 55-годдзем дарагога **Пятра Дзмітрыевіча ЯРМОЛІЧА** з в. Сітніца Лунінецкага раёна. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту і доўгіх гадоў жыцця.*

**Жонка, дзеці, унукі.**

*Віншую з нагоды 50-годдзя з дня нараджэння **Генадзя Іванавіча ВЕРХАВОДКІНА** з г. Гродна. Жадаю сонца, пяшчоты, цяпла, вялікага зямнога шчасця, каб жыццё шчаслівым у цябе было.*

**Аня.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. **E-mail:** daily@zwyazda.belpak.minsk.by* **«ДЛЯ ВАС»** — 32-44-12.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі. Матэрыялы, пазначаныя значком носяць рэкламны характар. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Агульны тыраж 92.132.
Індэкс 63850.
Зак. № 5605.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

***Калі мы гаворым, што Беларусь, якая не мае багатых прыродных рэсурсаў, можа выжыць, толькі выкарыстоўваючы высокі інтэлект, то, натуральна, трэба ствараць і належныя ўмовы для яго развіцця. На гэта ў нейкай меры і скіравана прэзідэнцкая праграма «Дзеці Беларусі», разлічаная на доўгую перспектыву. «Развіццё індустрыі дзіцячага харчавання» — адна з яе падпраграм. Сёння за «круглым сталом» газеты «Звязда» спецыялісты Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання разглядаюць толькі частку гэтай праблемы: якія перспектывы ў забеспячэнні дзяцей першых гадоў жыцця прадукцыяй на пладова-агароднiннай аснове. Вёў яго намеснік міністра Анатоль РУБАНІК.***



ШТО СЁННЯ НА ВЯЧЭРУ?

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

# Інтэлект трэба падтрымліваць і развіваць з дзяцінства. Не апошняя роля ў гэтым адводзіцца паўнацэннаму харчаванню

### МЭТЫ І ЗАДАЧЫ ПАДПРАГРАМЫ

Галоўнай мэтай падпраграмы з'яўляецца задавальненне патрэб насельніцтва ў спецыяльных і лячэбных прадуктах харчавання для дзяцей ранняга ўзросту.

Падпраграма прадугледжвае вырашэнне наступных задач:

развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы галіны за кошт тэхнічнага пераабсталявання і рэканструкцыі дзеючых і закончэння будаўніцтва пачатых цэхаў дзіцячага харчавання;

пастаўкі неабходнага імпартнага тэхналагічнага абсталявання для цэхаў дзіцячага харчавання;

стварэнне сыравіннай базы для вытворчасці экалагічна чыстых прадуктаў для дзіцячага харчавання;

распрацоўка і асваенне прамысловай вытворчасці новага асартыменту сучасных прадуктаў харчавання для здаровых і хворых дзяцей;

павышэнне якасці і бяспекі прадуктаў дзіцячага харчавання.

### СТАН І ПЕРСПЕКТЫВЫ ВЫТВОРЧАСЦІ ДЗІЦЯЧАГА ХАРЧАВАННЯ

Беларускія прадпрыемствы па выпуску пладова-агароднінных кансерваў для дзіцячага харчавання дзейнічаюць амаль дваццаць гадоў. Напрацовак у іх шмат. Напрыклад, Клецкі кансервавы завод, магутнасць якога 10 мільёнаў умоўных слоікаў у год, у постсавецкі перыяд вырабляў нават і больш — да 12 мільёнаў. Старэйшы Маларыцкі кансервавы завод на пачатку 90-х гадоў таксама дасягаў максімальнай вытворчасці прадукцыі — 5 мільёнаў умоўных слоікаў у год. Натуральна, страта рынкаў, звязаная з развалам Саюза, пацягнула за сабой значнае зніжэнне іх вытворчасці. Праўда, з пазалетняга года намеціўся рост, які ў мінулым годзе склаў 137 працэнтаў да ўзроўню 1996 года, а за восем месяцаў сёлетняга ён склаў 130 працэнтаў да адпаведнага перыяду леташняга года (выраблена 4,7 млн. умоўных слоікаў). Бачна, што сапраўды павялічваецца вытворчасць, аднаўляюцца рынкі збыту, у тым ліку і ў Расіі. Але аб'ёмы пачатку 90-х гадоў пакуль не дасягнуты. Як адзначалася ўдзельнікамі «круглага стала», і яны забяспечваюць патрэбнасць у кансервах на пладова-агароднiннай аснове для дзяцей да трох гадоў толькі на 15,4 працэнта. Ёсць над чым працаваць спецыялістам. Медыкі сцвярджаюць, што для дзіцячага арганізма пладова-агародніннія кансервы вельмі карысныя, яны ідуць следам за грудным харчаваннем. Згодна з нормамі, якія рэкамендуе Міністэрства аховы здароўя, патрэбнасць у дзіцячым пладова-агароднінным харчаванні складае 138,7 млн. умоўных слоікаў у год. З іх не менш чым 30 працэнтаў (41,5 млн. умоўных слоікаў) пладоў, агароднiны і ягад павінны выкарыстоўвацца ў свежапрыгатаваным выглядзе (пюрэ, сокі), астатнія 97,2 млн. умоўных слоікаў трэба гатаваць у выглядзе кансерваў.

Павелічэнне выпуску пладова-агароднінных кансерваў для дзіцячага харчавання плануецца забяспечыць за кошт пашырэння вытворчай базы дзеючых прадпрыемстваў, пераарыентацыі і рэканструкцыі некаторых перапрацоўчых прадпрыемстваў для выпуску менавіта гэтага віду прадукцыі. Складанасці заключаюцца ў тым, на думку начальніка аддзела харчовых галін прамысловасці Мінсельгасхарча Віктара Клыпы, што ў апошнія гады практычна не вялося абнаўленне вытворчых магутнасцей. І гэта пры тым, што машыны і абсталяванне састарэлі маральна і фізічна. Становічае вырашэнне гэтай праблемы звязваецца з рэалізацыяй падпраграмы «Развіццё індустрыі дзіцячага харчавання». Да 2005 года плануецца павялічыць выпуск пладова-агароднінных кансерваў для дзіцячага харчавання на 37 млн. умоўных слоікаў.

Для гэтага неабходна ажыццявіць рэканструкцыю Клецкага кансервавага і Маларыцкага агароднінасушыльнага заводаў з павелічэннем магутнасці кожнага на 15 млн. умоўных слоікаў у год. За кошт частковай пераарыентацыі вытворчасці і аснашчэння тэхналагічным абсталяваннем Віцебскага эксперыментальнага пладова-агароднiннага камбіната плануецца наладзіць там вытворчасць 7 млн. умоўных слоікаў дзіцячага харчавання.

Абнаўленне абсталявання неабходна весці, падкрэслівалі ўдзельнікі размовы, з улікам павышэння канкурэнтаздольнасці дзіцячага харчавання, асваення вытворчасці высакаякасных фарбавальных прадуктаў, сучаснай упакоўкі і ўкупоркі, а таксама больш дробнай аднаразовай расфасоўкі.

### РЭКАНСТРУКЦЫЯ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ — АСНОВА ДАЛЕЙШАГА РАЗВІЦЦЯ ГАЛІНЫ

Як адзначыў намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення раслінаводства Мінсельгасхарча Вячаслаў Сіпер, праблемай дзіцячага харчавання ў рэспубліцы займаюцца даўно. За гэты час створаны вялікія сыравінныя зоны вакол Клецка і Маларыты, да якіх прывязаны агароднінныя гаспадаркі, сады, ягаднікі. Важна, што па якасці наша прадукцыя значна лепшая за імпартную. Яна экалагічна чыстая, таму што ў краіне амаль у 4 разы больш жорсткія патрабаванні, чым у Еўропе, да ўтрымання ў прадукцыі нітратаў. На Захадзе, напрыклад, тыя ж агародніну ці садавіну апрацоўваюць хімікатамі 10—12 разоў, у нас з-за беднасці — ні разу. Ды і па цане наша прадукцыя больш танная. Накіроўваючыся на гэту сустрэчу, дырэктар Клецкага кансервавага завода Мікалай Буката набыў у адной з мінскіх крамаў імпартную кансерву з дзіцячым харчаваннем. 100 грамаў яго каштавала 61 тысячу рублёў, у той час як 250-грамовы слоік такой жа прадукцыі беларускай вытворчасці каштуе не больш чым 13 тысяч рублёў. Іншая справа, што знешні выгляд нашых кансерваў значна ўступае замежным. Укупорка таксама шматгадовай даўнасці. Ды і на паліцах многіх крамаў наша прадукцыя, як сіраціна, застаўлена ў куточак.

На ўсіх рэканструюемых аб'ектах рэспубліканскай праграмай прадугледжваецца фасоўка прадукцыі ў шкляныя слоікі ўмяшчальнасцю 100 і 250 грамаў з накрыўкай тыпу «Еўра-твіст», якая адпавядае сусветным стандартам. Праўда, для закупкі такога абсталявання па вытворчасці слоікаў, накрывак, лакіравання і літаграфіі бляхі патрабуецца 8,7 млн. долараў.

Як вядома, рэспубліканская праграма раздзелена на два этапы. На працягу першага з іх (да 2000 года) павінны правесці мадэрнізацыю тры вышэйназваныя прадпрыемствы. З-за недахвату сродкаў закансервавана рэканструкцыя Клецкага і Маларыцкага кансервавых заводаў.

Але, як паведаміла галоўны спецыяліст Галоўнага ўпраўлення інвестыцый Мінсельгасхарча Наталля Макарава, тут будзе ўсё ж весціся тэхнічнае пераабсталяванне на існуючых плошчах. Праўда, ёсць небяспека паўтарэння адмоўнага вопыту гэтай работы на віцебскім камбінаце, якому сёлета выдзялялася з бюджэту 32 мільярды рублёў на закупку імпартнага абсталявання. Быў нават заключаны кантракт з італьянскай фірмай. Але з-за праблемы з канвертацыяй валюты так нічога і не было зроблена. Наталля Сяргееўна падкрэсліла, што такая ж сітуацыя можа скласціся і з двума іншымі кансервавымі заводамі, якім у наступным годзе плануецца выдзеліць з бюджэту грошы на рэканструкцыю. Праблему канвертацыі, на яе думку, трэба вырашаць на ўрадавым узроўні.

Мэтазгодным было б мэтавае выдзяленне валюты на закупку імпартнага абсталявання для вытворчасці дзіцячых пладова-агароднінных прадуктаў харчавання. А гэта немалыя сумы. Толькі на пераабсталяванне трох вышэйназваных прадпрыемстваў патрабуецца 5,87 млн. долараў. Яшчэ больш (8,7 млн. долараў) трэба ўкласці ў пераабсталяванне Ляхавіцкага завода металапластмас і Асіповіцкага шклозавода «Кастрычнік», якія, плануецца, будуць вырабляць тару і накрыўкі сусветнага ўзроўню. Дзе ж узяць грошы на гэтыя мэты? Удзельнікі размовы адзначалі, што можна зарабляць валюту самім. Але...

Па-першае, пры невялікіх аб'ёмах вытворчасці нельга пакінуць без дзіцячага харчавання на пладова-агароднiннай аснове айчынны рынак. Па-другое, пра гэта гаварылася і вышэй, у той упакоўцы, што вырабляецца, нашаму харчаванню цяжка канкурыраваць не толькі на сваім, але і на расійскім рынку, не кажучы ўжо пра іншыя рэгіёны. Па-трэцяе, кошт абсталявання такі высокі, што, каб набыць яго за кошт прадпрыемства, трэба мець вельмі вялікія аб'ёмы свабоднай прадукцыі, якіх пакуль няма. Па-чацвёртае, вытворцам дзіцячага харчавання таксама прыходзіцца аддаваць 40 працэнтаў валютнай выручкі. Як бачна, адна праблема не вырашаецца, а нараджае другую.

### НЕЛЬГА ПАТРАБАВАЦЬ ТОЛЬКІ АД ДЗЯРЖАВЫ

«У эканамічных умовах, якія склаліся, ствараемыя магутнасці па вытворчасці дзіцячага харчавання практычна з'яўляюцца нерэнтабельнымі і пры нізкай пакупніцкай здольнасці насельніцтва (асабліва ў сельскай мясцовасці) патрабуюць сапраўды адраснай дзяржаўнай падтрымкі як найбольш сацыяльна значныя аб'екты, — падкрэсліў намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Анатоль Рубанік. — Але рэалізацыя падпраграмы па развіццю індустрыі дзіцячага харчавання прадугледжвае накіраванне фінансавых рэсурсаў з рэспубліканскага (не менш чым 40 працэнтаў) і мясцовага (да 30 працэнтаў) бюджэтаў, а таксама прыцягненне льготных беспрацэнтных крэдытаў (20 працэнтаў) і выкарыстанне ўласных сродкаў прадпрыемства (10 працэнтаў)». Анатоль Мікалаевіч адназначна даў зразумець, што вырашэннем канвертацыі валюты павінен займацца не толькі ўрад, але і аблвыканкамы, і непасрэдна прадпрыемствы. Удалося ж вырашыць разам гэтую праблему цяплічным камбінатам, якія зараз значна мадэрнізаваны і выходзяць на высокія паказчыкі работы. Вопыт ёсць. Безвыходных сітуацый няма.

Мяркуецца, што ў гэтым плане станоўчым было б выкананне аднаго з пунктаў праграмы — вызваліць прадпрыемствы, якія выпускаюць дзіцячае харчаванне, рэалізуемае ў рэспубліцы, ад выплаты падаткаў на прыбытак і дабаўленую вартасць. Трэба, вырашылі ўдзельнікі «круглага стала», ставіць перад урадам і гэтае пытанне. Праўда, павінна быць і ініцыятыва працоўных калектываў у пашырэнні асартыменту прадукцыі і павышэнні яе якасці. Як гэта робіцца, напрыклад, на Клецкім кансервавым заводзе, дзе, па словах дырэктара, вырабляецца цяпер 65 найменняў прадукцыі, а гэта 6,5 млн. умоўных слоікаў дзіцячага харчавання і 6 млн. умоўных слоікаў агульных агароднінных кансерваў. Важна пашыраць напаўняльнасць дзіцячага харчавання, уводзячы туды мясныя і іншыя дабаўкі.

Востра адрэагаваў намеснік міністра на неасваенне бюджэтных фондаў Віцебскім эксперыментальным пладова-агароднінным камбінатам. На довады дырэктара Віктара Твярдоўскага, што, маўляў, нельга было знайсці ў рэспубліцы тавар, каб, прадаўшы яго, зарабіць валюту, Анатоль Мікалаевіч заўважыў: той, хто спадзяецца толькі на дзяржаву, а не варушыцца сам, будзе ў пройгрышы. Камбінат — эксперыментальная вытворчасць. Чаму б яму было не выкарыстаць такі валютны тавар як лісічкі ці ягады, перапрацаваўшы іх на прадпрыемстве? Змаглі ж, ушчуваў ён, на Маларыцкім заводзе вырабляць прадукцыю пад еўраўкупорку, вырашыўшы гэтую праблему самастойна.

Тут жа было вырашана заслухаць на калегіі Мінсельгасхарча інфармацыю па асваенню віцебскім камбінатам бюджэтных асігнаванняў.

### ВЫРАШЭННЕ ПРАБЛЕМЫ — НЕ АДНАГО ДНЯ ЗАДАЧА, І НЕ ТОЛЬКІ РАБОТНІКАЎ АПК

Як ужо адзначалася, трэба пераглядаць падаткі для такіх прадпрыемстваў, каб стымуляваць вытворчасць. Сітуацыя складваецца так, гаворыць галоўны інжынер Маларыцкага завода Васіль Антановіч, што ўстаноўленая рэнтабельнасць у 10 працэнтаў не забяспечвае пакрыцця ўсіх выдаткаў па выпуску дзіцячай прадукцыі. Калі б не вытворчасць сухой бульбы, то прадпрыемства было б стратным. Павінна быць рэальная цана, якая была б прымальнай і для вытворцаў, і для спажыўцоў.

Існуе таксама праблема рэалізацыі дзіцячага харчавання на айчынным рынку. Сёння, напрыклад, шмат заявак паступіла на Клецкі кансервавы завод, але не хапае транспарту для вывазу гатовай прадукцыі, якой сёння знаходзіцца на складах амаль на 8 мільярдаў рублёў. З аплатай, канстатуе Мікалай Буката, таксама трэба штосьці вырашаць. Тыя ж базы «Белбакалеі» на працягу 30 банкаўскіх дзён аплачваюць пастаўлены ім тавар, а гэта, як правіла, займае амаль два месяцы. Таму не хапае абаротных сродкаў на закупку сыравіны, слоікаў, накрывак. Ён паведаміў, што з 1 кастрычніка, калі на прадпрыемстве будзе арганізавана работа ў тры змены з мэтай перапрацоўкі морквы, штодзень толькі слоікаў запатрабуецца 75 тысяч, амаль на 500 млн. рублёў. Знаходзіць такія сумы, калі зніжаецца пакупніцкая здольнасць насельніцтва, усё цяжэй. Тым больш, што і накрыўкі, і слоікі, ды і сыравіну адпускаюць заводу толькі па перадаплаце. Магчыма, мелі рацыю намеснік старшыні ВА «Мінскплодаагароднінагас» Аляксей Лугавой і галоўны спецыяліст канцэрна «Белдзяржхарчпрам» Анатоль Бурко, якія прапаноўвалі пакідаць у рэзерве прадпрыемстваў частку гатовай прадукцыі з мэтай яе рэалізацыі для закупкі неабходнага абсталявання і сыравіны, а таксама значна знізіць (да 50 працэнтаў) стаўку крэдытавання, як гэта зроблена для піваварных заводаў.

Вытворцы дзіцячага харчавання таксама добра ўсведамляюць, што без дапамогі навуковых цэнтраў нельга дасягнуць добрых вынікаў. Таму мабыць так шчыра расказалі аб укладзе сваіх калег у развіццё індустрыі дзіцячага харчавання дырэктар БелНДІ агароднінаводства Генадзь Ганчук і старшы навуковы супрацоўнік БелНДІ пладаводства Марыя Максіменка. Дзякуючы ім ствараюцца новыя гатункі садавіны, агароднiны, ягад, іх гібрыды, даюцца шматлікія рэкамендацыі па вырошчванню. І ўсё гэта робіцца ў рэшце рэшт дзеля таго, каб у нашых дзяцей было збалансаванае па ўсіх паказчыках харчаванне. Важна, падкрэслівалі суразмоўцы, каб і надалей навуковыя распрацоўкі ўключаліся ў дзяржзаказ і хоць бы на 50 працэнтаў фінансаваліся, астатняе вучоныя заробяць самі. Дарэчы, вопыт гэтага ў іх ужо ёсць.

***Шмат якіх яшчэ іншых праблем узнімалася за «круглым сталом» «Звязды». Многія з іх, як падкрэслівалася, вырашаюцца толькі дзякуючы сур'ёзнай зацікаўленасці дзяржавы ў развіцці індустрыі дзіцячага харчавання. Але недахопаў, як бачна, у гэтай справе яшчэ шмат. І пераадолець іх Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання ў рамках сваёй кампетэнцыі не здольна. Тут сваё слова, калі мы гаворым аб сапраўднай і сур'ёзнай падтрымцы вырашэння гэтай праблемы, павінны сказаць міністэрствы эканомікі і фінансаў, падатковы камітэт. Размова ідзе пра льготнае крэдытаванне вытворчасці дзіцячага харчавання, змяншэнне падатковага ціску на прадпрыемствы, устанаўленні такой мяжы рэнтабельнасці, якая б хоць часткова дазваляла ўзнаўляць вытворчасць.***

***Таму па дамоўленасці з Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання рэдакцыя «Звязды» бярэ пад свой строгі кантроль выкананне рэспубліканскай падпраграмы «Развіццё індустрыі дзіцячага харчавання». Пішыце нам. Разам мы павінны клапаціцца аб здароўі нашых дзяцей, аб захаванні і развіцці інтэлекту нацыі. Будучае — за ім.***

## АДНЫ ВЯЗУЦЬ, ДРУГІЯ ЛОВЯЦЬ

**Хаця расійская граніца ад Брэста і далекавата, тым не менш, за апошнія два тыдні аператыўнікі не дапусцілі вывазу туды прадуктаў харчавання на суму, якая перавышае 3 млрд. рублёў.**

Не ўдалося вывезці з Брэстчыны малочных вырабаў — 3,25 тоны, мясных прадуктаў — 1,3 тоны і яек больш за тысячу штук. Напрыклад, у жыхаркі Бярозы канфіскавалі 120 кг свежай рыбы і мясных вырабаў на 42 млн. рублёў. Усё гэта павінна было апынуцца на маскоўскім рынку.

Але вязуць не толькі ў Расію, але і ва Украіну. У аўтобусе, які ішоў з Брэста ў Ковель, мытнікі знайшлі 34 кг масла і глазураваных сыркоў на 40 млн. рублёў.

Узбуджана дзесяць крымінальных спраў.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

СПЕЦАДДЗЕЛ

# СЕКС – справа ўсенародная. «Інтым» — індывідуальная

**Карэспандэнт «Звязды» папрацаваў у сталічным магазіне эратычнай прадукцыі «Інтым»**











Не так даўно давялося падслухаць у аўтобусе філасофскую спрэчку двух бабулек. Сварка ішла, што называецца, не на жыццё.

Бабуля-кансерватарка: — І вось заходжу я ў гэты эратычны магазін, а там!.. Цьфу, сорам адзін. На паліцах гэтыя... як іх... вібратары ляжаць. Ды па якіх цэнах! Лепш бы яны на тыя паліцы замест тых вібратараў танную каўбасу паклалі.

Бабуля-радыкалка: — Вой-вой-вой! Таннай каўбасы ёй мала ў прадуктовых крамах! Каўбасу не там шукаюць, даражэнькая.

Кансерватарка: — Імпатэнты і сексуальна заклапочаныя жанчыны — там!

Радыкалка: — Сама ты сексуальна заклапочаная. Капусціна чытала?

Кансерватарка: — Не хачу чуць ні пра вашага Капусціна, на пра вашы парнаграфічныя магазіны... Цьфу!

Чым закончылася «дуэль» бабулек, так і не давялося даведацца, бо трэба было выходзіць. А вось ідэю схадзіць і самому паглядзець, як працуецца ў мінскім магазіне эратычнай прадукцыі «Інтым», што ў мікраёне «Зялёны луг», «радыкал-кансерватаркі» падкінулі нядрэнную. І мы адправіліся ў шлях...

— Я вас пакуль пазнаёмлю з нашым таварам, добра? — прапаноўвае мне сімпатычная прадаўшчыца Марына, і я, вядомая рэч, ёй не адмаўляю. — Вось тут, у першай зале, у нас, так бы мовіць, дробязны тавар. Прэзерватывы, жаночая і мужчынская ніжняя бялізна, эратычныя відэакасеты, іншы асартымент...

Асартымент багаты. Тут вам, як кажуць, і вужык, і вожык. Самыя розныя мазі і лекі для павышэння патэнцыі, сувеніры... Пры неабходнасці можна нават набыць чырвоненькае пасведчанне з цьснёнымі залатымі літарамі «Майстар спорту па сексу» альбо значок «Секс-інструктар». Дзеля жарту, вядома, але купляюць. Асабліва багаты выбар прэзерватываў.

— Вось гэтыя з клубнічным пахам, той — ананасавы, — паказвае мне Марына, і ў мяне чамусьці паўстае перад вачыма сакавіты ананас. — А вунь, на прылаўку, прэзерватывы, якія свецяцца ўначы.

Ага, бачу — 80 тысяч рэ за адну штучку. З захапленнем ківаю галавой, хоць на душы крыху і заскрэбла — не напалохаць бы ноччу дзяўчыну, а то яшчэ прыме за сабаку Баскервіляў.

— Цудоўна арыентуецеся ў такім моры тавару, — раблю камплімент майму «экскурсаводу». — Так добра ведаеце, што дзе ляжыць...

— Так, працую даўно. Ведаю і дзе што ляжыць, і дзе што стаіць, — не без гумару адказвае Марына. — Нядаўна прыходзіць мужчына і кажа: «У мяне такая праблема, дапамажыце яе вырашыць. Як з жонкай сплю — усё нармальна. Як толькі пайду «налева» — ну нічога не атрымліваецца! Прапішыце штонебудзь». Прапісалі.

Тым часам у краме з'яўляюцца першыя пакупнікі, і я пацішу прыладкоўваюся да другой прадаўшчыцы — Наташы, якая стаіць на касе. Наташа працуе ў «Інтыме» яшчэ толькі месяц (раней яна, закончыўшы педвучылішча, выкладала ў школе, у пачатковых класах), аднак справу сваю ўжо ведае добра. Паўнаваты мужчына гадоў пяцідзесяці, паблукаўшы хвілін дваццаць па зале, набірае сабе штук дваццаць прэзерватываў рознага роду, і Наталля спрытна выбівае чэк. Не паспеў ён адысці, як ужо даводзіцца дапамагаць жанчыне сярэдняга ўзросту выбраць свайму мужчыну падарунак. У рэшце рэшт, спыняемся на прыгожым падсвечніку і пасведчанні «Сапраўдны мужчына». Таксама нядрэнны выбар.

Другая зала, уваход у якую каштуе 10 тысяч (сума, скажам шчыра, чыста сімвалічная, сустракае мяне словамі на вітрыне «Мужчины! Помпа — лучший аппарат, даст отличный вам заряд». У кутку сціпла схіліла набок галаву гумавая жанчына за 14 мільёнаў «зайцоў». Кажуць, калі скокнуў долар, танных «цётак» па 7 мільёнаў «размялі» адразу ж.

У гэтай жа зале самыя розныя вібратары — ад 850 тысяч да 19 мільёнаў, спецыяльны аддзел для мужчын і нават бізун.

— Што, для мазахістаў? — здзіўлена пытаюся ў Марыны.

— Я ж не пытаюся, хто яны такія. Можа, і ўякасці пугі для каня выкарыстоўваюць.

Не, вырашаю я, для пугі будзе дарагавата.

...Наш агляд закончаны, я на сабе праверыў, што такое папрацаваць у краме эратычных вырабаў і асабіста для сябе зазначыў, што нічога пахабнага ў такім гандлі няма. Калі чалавеку хочацца есці, ён ідзе і купляе каўбасу. Калі яму хочацца мець духоўны пажытак, ён накіроўваецца ў тэатр альбо чытае класіку. Калі ж чалавеку ад прыроды дадзена займацца сексам, то чаму б яму і не наведаць магазін «Інтым». Так што, лічыце мяне радыкалам.

**Алесь СІВЫ,**
**Яўген ПЯСЕЦКІ (фота).**

## Аляксандр КАРЖАКОЎ:

# «ЕЛЬЦЫН СКОНЧЫЎСЯ ДАЎНО...»

**Іспанская газета «Вангуардзія» публікуе інтэрв'ю Аляксандра Каржакова, у якім, у прыватнасці, гаворыцца:**

*— Гэтым летам Ельцын быў у водпуску, і раптам усё разбурылася, пайшоў Кірыенка, вяртаўся Чарнамырдзін. Што здарылася?*

— Сцэнарый тарпедавання Кірыенкі ажыццявіў Беразоўскі, які з'яўляецца казначэем сям'і прэзідэнта і дзейнічае праз вельмі кемлівую дачку Ельцына Таццяну і праз свайго маладога сябра Валянціна Юмашава. Кірыенка быў назначаны без удзелу Беразоўскага. Апошні паспрабаваў не адстаць ад цягніка і злавіць Кірыенку. Калі высветлілася, што прэм'ер-міністр не паддаецца, яго лёс быў вырашаны: неабходна было яго адкінуць. Гэтага хацелі ўсе магнаты. Бедны Барыс Мікалаевіч не быў пры сабе ні калі назначаў Кірыенку, ні калі яго знялі. Ён "скончыўся" ўжо даўно і служыць марыянеткай, што прыводзіцца ў дзеянне чужой рукой.

*— Які быў стан здароўя прэзідэнта ў ліпені?*

— Ён хворы з 1995 года, калі першы інфаркт пакінуў сляды ў яго інтэлекце. Пасля пяці інфарктаў чалавек не можа нармальна працаваць, як мы гэта канстатавалі ўсякі раз, калі ён з'яўляўся на публіцы.

*— Справы настолькі пагоршыліся, што гэтым летам давялося хапацца за Чарнамырдзіна, як за выратавальны круг?*

— Паўтараю: ён адчувае сябе не горш, чым раней. З дапамогай адпаведных лекаў іншы раз можна нават палепшыць яго стан на паўгадзіны, але пасля гэтых доз ён павінен аднавіцца, адпачыць. Іншы раз парадак дня яго падштурхоўвае, прыязджае Клінтан ці яшчэ хто-небудзь, і ў яго няма часу аднавіцца, адпачыць. Сцэнарый Беразоўскага прадугледжваў назначыць на пасаду прэм'ер-міністра Чарнамырдзіна. Потым, праз 2-3 тыдні ці месяц Чарнамырдзін павінен быў аб'явіць народу, што Барыс Мікалаевіч не можа працаваць з-за хваробы і трэба спыніць яго паўнамоцтвы. Гэты сцэнарый не спрацаваў, таму што Беразоўскі не ведае рэальнае жыццё і таму што ён не змог купіць дэпутатаў. Не магу назваць вам перад мікрафонам суму, якую ён заплаціў некаторым дэпутатам, каб купіць іх галасы.

*— Дзесяць тысяч долараў...*

— Але было вырашана купіць апазіцыю, незалежных і нерашучых. Беразоўскі сустрэўся з кіраўнікамі камуністаў і прапанаваў ім утрымліваць за свой кошт газету «Правда» і да т.п., але дэпутаты паслалі яго к чорту.

*— 27 жніўня тагачасны прэс-сакратар Ельцына Ястржэмбскі вёў перагаворы ў Думе з камуністамі аб умовах адстаўкі Ельцына пры забеспячэнні гарантый прэзідэнту і яго сям'і. Але раптам пра гэта перасталі гаварыць, і Чарнамырдзін перастаў быць прыдатнай кандыдатурай. Што здарылася?*

— Калі за перагаворы ўзяліся Юмашаў і Чарнамырдзін, яны перасталі гаварыць на гэтую тэму. Замест адстаўкі былі выстаўлены некаторыя вельмі прыгожыя пункты, але яны не былі гарантаваны канстытуцыяй. Не было ніякай гарантыі іх захавання і перагаворы праваліліся.

*— Ці вытрымае Ельцын да 2000 года?*

— Мой прагноз заключаецца ў тым, што яго здароўе яшчэ пагоршыцца. Як прэзідэнт ён павінен быў бы сумленна аб'явіць датэрміновыя выбары.

*— У сувязі з заменай урада ці не застаўся Беразоўскі па-за гульнёй?*

— Пакуль Ельцын застаецца ля ўлады, хоць бы фармальна, Беразоўскі ўтрымаецца на плаву. Але пры новым прэзідэнце для яго знойдзецца ледаруб. Троцкі быў забіты ледарубам Рамонам Меркадэрам».

36,6°

# БУДУЧЫМ ФОТАМАДЭЛЯМ РАЯЦЬ ПЕРАЙСЦІ НА ГРЭЙПФРУТЫ

**Паводле старой англійскай прымаўкі, «хто з'ядае яблык штодзень, таму хварэць не хочацца», што цалкам адпавядае рэчаіснасці. Праўда, каб засцерагчыся ад многіх хвароб, аднаго яблыка недастаткова. Амерыканскія дыетолагі раяць з'ядаць як мінімум 2 (а лепш 5) салодкія плады ў суткі. Прычым не толькі яблыкі. Для дасягнення лячэбнага эфекту прыдатная любая садавіна, прычым яблыкі якраз зусім не самыя цудадзейныя з іх. Вось як выглядае фруктовы «хіт-парад», складзены Амерыканскай дыеталагічнай асацыяцыяй:**

**АПЕЛЬСІНЫ**. У іх утрымліваецца вялікая колькасць вітаміну С, які адыгрывае важную ролю ў прафілактыцы рака і валодае ўласцівасцю зніжаць узровень халестэрыну ў крыві. Ёсць у апельсінах таксама вітамін А, бэта-карацін і надзвычай важная для цяжарных фоліевая кіслата. Фрукт сярэдняй велічыні ўтрымлівае 65 калорый.

**АБРЫКОСЫ**. Яны — непераўзыдзеная крыніца жалеза, а таксама вітамінаў А, С і калію. Да таго ж яны настолькі салодкія, што з іх дапамогай любому ласуну, які сеў на дыету, будзе лягчэй адмовіцца ад цукерак і пірожных. Да таго ж абрыкосы зусім некаларыйныя. У трох пладах утрымліваецца ўсяго 50 калорый.

**ПАМІДОРЫ** (іх амерыканцы таксама лічаць садавінай). Акрамя вітамінаў А і С утрымліваюць лікапін — рэчыва, якое значна зніжае рызыку захворвання на рак прастаты. Энергетычная каштоўнасць — 30 калорый на адзін памідор.

На **ДЫНЮ**, у якой шмат калію, асабліва рэкамендуецца налягаць спартсменам, якія ў час трэніровак губляюць вялікую яго колькасць. Шмат у дыні і вітаміну А, які рэгулюе дзейнасць сэрца і мышцаў. Акрамя таго, плод валодае унікальнай здольнасцю аднаўляць сілы. У палавінцы невялікай дыні ўтрымліваецца 94 калорыі.

**БАНАНЫ** могуць цалкам замяніць традыцыйныя сто грамаў для ўзняцця настрою, паколькі ўтрымліваюць «гармон шчасця» серытанін. У іх ёсць мноства розных вітамінаў і карысных мінеральных рэчываў. Яны — цудоўная крыніца энергіі (105 калорый на плод сярэдняга памеру), вугляводаў і выдатна засвойваюцца арганізмам.

Экзатычны плод **МАНГА** можна есці, каб засцерагчыся ад прастуды. Дзякуючы высокаму ўтрыманню вітаміну С і бэта-караціну фрукт добра ўплывае на імунную сістэму арганізма. У адным манга налічваецца 135 калорый.

Як свежы, так і сушаны **ІНЖЫР** багаты на калій, жалеза і раслінныя харчовыя валокны, якія садзейнічаюць зніжэнню ўзроўню халестэрыну ў крыві. У сухафруктах таксама ўтрымліваецца вялікая колькасць кальцыю. Энергетычная каштоўнасць адной фігі — 47 калорый.

**ГРЭЙПФРУТ** не выпадкова лічыцца любімым фруктам актрыс, фотамадэляў і ўсіх тых, хто жадае пахудзець. Нават пах плода валодае здольнасцю расшчэпліваць тлушч. У грэйпфрутах, асабліва ружовых, шмат бэта-караціну і вітаміну С. У палове плода ўтрымліваецца 45 калорый.

**КЛУБНІЦЫ** нізкакаларыйныя (45 калорый на кубак) і багатыя вітамінам С. А харчовых валокнаў, якія садзейнічаюць правільнаму страваванню, у іх больш, чым у хлебе з вотруб'ем.

У **КІВІ** шмат кальцыю, вітаміну С і харчовых валокнаў. А ў самым вялікім плодзе ўтрымліваецца ўсяго 55 калорый.

***Дарэчы, тым, хто сочыць за ўласнай фігурай, лепш устрымацца ад піцця без меры фруктовых сокаў — яны ніколькі не лепшыя чым салодкая газіроўка. Дыетолаг Моры Кензі Саламан падлічыла, што колькасць калорый у соках у 4 разы большая, чым у цэлых пладах. Больш карысна з'есці ўсе названыя фрукты цалкам. Гатуючы сок, мы выкідваем харчовыя валокны, якія, па-першае, ачышчаюць арганізм, па-другое, падаўляюць пачуццё голаду, а па-трэцяе, з'яўляюцца вельмі важным сродкам у барацьбе з лішняй вагой.***

**Ганна КУТУЗАВА.**
*«Мегополис-экспресс. Новости».*